# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для **3** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне,
выпраўленае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2012

УДК 821.161.3(075.2=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б43

А ў т а р ы:

**Т. М. Валынец, І. Э. Ратнікава, І. С. Роўда, П. П. Шуба**

Р э ц э н з е н т ы:

канд. пед. навук, дац. кафедры беларускага і рускага мовазнаўства факультэта пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» *В. І. Свірыдзенка*;

метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 131 г. Мінска» (нам. дырэктара па вучэбнай рабоце *Т. В. Шантур*)

**Умоўныя абазначэнні:**

 — дамашняе заданне;

 — правіла;

 — дадатковае заданне да практыкавання;

 — падказка слоўніка

**ISBN 978-985-559-070-6 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-559-069-0**

# ПАЎТАРЭННЕ




## Гукі і літары. Алфавіт




**1.** Прачытайце, устаўляючы патрэбныя словы.

Словы, якія мы чуем і вымаўляем, складаюцца з ... . На пісьме гукі абазначаюцца ... .

Усе літары мовы, размешчаныя ў пэўным парадку, называюцца ... .

**2.** Прачытайце. Назавіце ў словах гукі і літары.

| | | |
|---|---|---|
| Радзіма | кніга | верасень |
| ураджай | аўтобус | школа |

- У якіх словах літар больш, чым гукаў? Чаму? Спішыце гэтыя словы.
- Як у напісанні слова *Радзіма* перадаецца павага да роднай зямлі?

**3.** Прачытайце. Каб аднавіць прапушчаныя словы, дадайце да выдзеленых слоў па адным гуку.

У рачулцы **рак.**
На бярозе … .

Пад канапай **кот.**
А ў норцы … .

*Н. Галіноўская*

● Спішыце верш. Падкрэсліце ўстаўленыя словы. Якія літары вы дадалі да слоў *рак* і *кот*?

**4.** Прачытайце казку. Прыдумайце да яе назву.




Жылі-былі гукі: галосныя і зычныя. Зычныя гукі былі ганарлівыя і капрызныя. «Нас многа, і таму мы можам усё», — гаварылі яны і аднойчы вырашылі даказаць гэта. Але ў якім парадку яны ні станавіліся, не атрымлівалася ніводнага слова. Галосныя хацелі дапамагчы, але зычныя адмовіліся. Пачалася сварка. І тут адзін галосны выпадкова **апынуўся** паміж двума зычнымі. Узнікла прыгожае, добрае слова *МІР*. Яно дапамагло зычным і галосным памірыцца і стаць сябрамі.

*Паводле С. Ільінскага*

● Якія гукі ўтвараюцца толькі голасам без шуму?

● Якіх гукаў у беларускай мове больш: галосных ці зычных?

● У выдзеленым слове назавіце спачатку літары, якія абазначаюць галосныя гукі, потым — зычныя.

**5.** Прачытайце. Выпішыце ў алфавітным парадку спачатку назвы рэк, а потым — азёр.

**Белару́сь**

У з о р. *Рэкі: Дзвіна, ..., ..., ... .*
*Азёры: Асвейскае, ..., ..., ... .*

Наша краіна — Беларусь. Густыя лясы і зялёныя палеткі маляўніча раскінуліся на ўзгорках і раўнінах. Праз палі, лясы і балоты цякуць паўнаводныя рэкі: Нёман і Дзвіна, спакойны Днепр, павольная Прыпяць. Нашу краіну называюць краем блакітных азёр. Самыя вялікія і прыгожыя азёры ў краіне — Нарач, Асвейскае, Чырвонае, Свір, Свіцязь.



**6.** Прачытайце. Чаму выдзеленыя словы напісаны з вялікай літары?

Слухачоў у **Міхася** багата —
Паглядзі ды злічы.
Хто ж яго слухачы?
**Тамара, Агата,**
**Стэфка, Юзэфка,**
**Кандрат, Ігнат,**
**Дзям'ян, Сцяпан,**
**Пятрок, Змітрок.**

*Я. Колас*

- Запішыце імёны ў алфавітным парадку.
- Якіх імёнаў няма ў рускай мове?

# Галосныя гукі.
# Іх абазначэнне на пісьме




**7.** Прачытайце, устаўляючы патрэбныя словы.

Гукі [о] і [э] бываюць толькі ў ... складах. Гук [а] сябруе з усімі складамі. Калі склад становіцца ..., [о] і [э] пакідаюць яго. Тады добры і працавіты [а] займае іх месца: *сорамна — не саромейся, рэчка — рачулка*.

Словы для даведкі: *націскныя (склады), ненаціскны (склад).*

**8.** Прачытайце словы. Змяніце іх так, каб замест літар ***о*** і ***э*** пісалася ***а***.

У з о р. *Стрэ́хі — страха́.*

Цэны — ..., рэкі — ..., горы — ..., сосны — ... .

● Запішыце словы парамі, пастаўце ў іх націск, падкрэсліце літары ***о, э, а***.



**9.** Прачытайце. Адгадайце загадкі.

1. І ў сто г..доў я мал..ды. Маё насенне — ж..луды.

2. Ходзіць п..лем з краю ў край, р..жа ч..рны каравай.

3. Са стр..хі м..рква вісіць, паху не мае, зімой выр..стае.

4. Ш..рае сукно лезе ў акно.

Словы для даведкі: *ранак, лядзяш, дуб, трактар з плугам.*

● Спішыце загадкі, устаўляючы патрэбныя літары, разам з адгадкамі.

***флама́стар***

**10.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

Некаторыя словы прыйшлі ў беларускую мову з іншых моў. Гэтыя словы часта вымаўляюцца не так, як беларускія. Гук [э] у іх можа быць і не пад націскам: *т*[э]*а́тр*, *т*[э]*леві́зар*, *гард*[э]*ро́б*. Таму ў гэтых словах літара ***э*** пішацца ў ненаціскных складах.

● Чаму ў словах *тэатр, тэлевізар, гардэроб* літара ***э*** пішацца не пад націскам?



**11.** Якія літары трэба дадаць, каб атрымаліся словы? Запішыце гэтыя словы ў сшытак.

1. Апарат для прыёму і паказу тэлеперадач.
2. Апарат для размоў на адлегласці.
3. Паведамленне, якое перадаецца па правадах.






Грэчаскае слова *тэле* абазначае *адлегласць*.

**12.** Прачытайце. Адкажыце, куды на самай справе дзелася сонейка.

**Надвячорак**

Сонца з верш..лінкі м..ладзенькай бяр..зкі моўчкі дало нырца ў р..чку.

Месячык аж збялеў ад хвалявання: утопіцца! Вецер у злосці затрос бяр..зку: чаму не затрымала сонейка? Неба на захадзе нібы ад сор..му пачырванела. Пачынала вечар..ць.

*А. Бадак*

● Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары ***о, э, а.***




**13.** Прачытайце, устаўляючы патрэбныя словы.

Літары ***ё, е, я*** абазначаюць гукі [о], [э], [а] пасля … зычных. У … складзе перад націскам замест літар ***ё*** і ***е*** пішацца ***я***: *цёплы — цяпле́йшы, сце́жка — сцяжы́нка*. У іншых складах ***е*** можа пісацца і не пад націскам: *верасы́, кро́пелька*.

Словы для даведкі: *мяккія (зычныя), першы (склад)*.

**14.** Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні.




- Якімі літарамі абазначаюцца гукі [о], [э], [а] пасля мяккіх зычных?
- Якая літара пішацца замест ***ё*** і ***е*** ў першым складзе перад націскам?

**15.** Прачытайце і адгадайце загадкі.

1. У шэры кажушок апрануты дружок.
   А выпадзе **сняжок** — **бялее** кажушок.



2. Дзяўчаткі-**весялушкі**
   памылі ў рэчцы стужкі.
   Цяпер яны не ў косах,
   а сохнуць у **нябёсах.**

*К. Камейша, М. Маляўка*

● Спішыце выдзеленыя словы. Пастаўце ў іх націск. Падкрэсліце літару ў першым складзе перад націскам.

● Растлумачце розніцу ў напісанні слоў: *вясёлы — весялушка, неба — нябёсы, снег — сняжок, белы — бялее.*

**16.** Прачытайце тэкст. Якія літары трэба ўставіць замест кропак?

Яны як с..стрычка і брат. Жвавая сінічка-нев..лічка і паважны прыгажун сн..гір. Улетку яны выводзяць птушанят у хваёвым л..се. Сн..гір — у гн..здзе з сухіх галінак, сінічка — н..рэдка ў старым пакінутым дупле.

*У. Ягоўдзік*



*Жва́вы* — рус. *ре́звый, шу́стрый, прово́рный. Пава́жны* — рус. *ва́жный, неторопли́вый, споко́йный.*

● Спішыце, устаўце прапушчаныя літары і падкрэсліце іх.




**17.** Прачытайце. Запомніце, як пішуцца выдзеленыя словы. Адкажыце на пытанне.

Словы, якія прыйшлі ў беларускую мову з іншых моў, часта вымаўляюцца не так, як беларускія. У такіх словах [э] пасля мяккіх зычных не пераходзіць у [а]. Таму ў першым складзе перад націскам пішацца не ***я***, а ***е***: *медаль, пенал, метал, метро*.

- Чаму ў словах *м**е**даль, п**е**нал, м**е**тал, м**е**тро* літара ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам?

**18.** Прачытайце сказы, устаўляючы патрэбныя словы.

1. Падземная электрычная чыгунка называецца ... .
2. Ручкі і алоўкі трэба насіць у ... .
3. За смеласць і мужнасць салдат атрымаў ... .
4. Цацачны робат зроблены з лёгкага бліскучага ... .

Словы для даведкі: *медаль, (у) пенале, (з) металу, метро.*

***пена́л***

- Спішыце сказы. Падкрэсліце ўстаўленыя словы.



**19.** Прачытайце. Растлумачце, якія літары трэба пісаць замест кропак.

Улетку кроп..лькай была,
в..сёлаю д..жджынкай.
А іней лёг, зіма прыйшла —
зл..цела ўніз сн..жынкай.

*М. Сівец*

- Спішыце. Падкрэсліце ўстаўленыя літары.

## Звонкія і глухія зычныя гукі. Іх абазначэнне на пісьме




**20.** Прачытайце, называючы прапушчаныя гукі.

Звонкія і глухія зычныя гукі ўтвараюць пары. Парныя гукі адрозніваюцца толькі адным — гучыць ці не гучыць голас пры іх вымаўленні: [б] — [п], [б’] — [..], [г] — [..], [г’] — [..], [д] — [..], [дз’] — [..], [дж] — [..], [ж] — [..], [з] — [..], [з’] — [..].

● Чым адрозніваюцца парныя глухія і звонкія гукі?




**21.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

На канцы слова і перад глухім зычным звонкі гук замяняецца на глухі гук: *пла*[д]*ы* — *пло*[т], *ка*[з]ачны — *ка*[с]*ка*. Як правільна абазначыць на пісьме парны зычны? Трэба змяніць слова ці падабраць праверачнае так, каб гэты гук знаходзіўся перад галосным: *дарожка* — *дарожак*, *птушка* — *птушак*, *казка* — *казачка*.

● Як праверыць напісанне літары пры абазначэнні парнага зычнага гука?

**22.** Прачытайце верш. Выпішыце словы з выдзеленымі літарамі. Падбярыце да іх праверачныя словы.

### Вавёрка ў парку

Апускаецца на сне**г**
на руцэ маёй арэ**х**.
На далонь дыхнуў звярок —
і арэшак у ратук.
Раздаецца трэск шкарлу**п**кі.
Як піла, працуюць зу**б**кі.

*Н. Галіноўская*

У з о р. *Ратоĸ — у ратку, зубкі — зубы.*

**23.** Змяніце словы па ўзоры, запішыце іх. Падкрэсліце літары, напісанне якіх трэба правяраць.

| | |
|---|---|
| сярпы — ... | грыбы — ... |
| сцягі — ... | мышы — ... |
| гаражы — ... | грады — ... |

У з о р. *Гербы — герб, слёзы — слёзкі.*

**24.** Прачытайце. З чым пісьменнік параўноўвае спелыя маліны пад сонечнымі прамянямі?

Была ціхая летняя раніца. Сонца пабліскваала на вільготным лісці бяро.., рассыпа́лася залацістымі плямамі праз ла..кі ялін. І калі трапляла сонца на

спелыя яга..кі малін, яны гарэлі, як камяні-самацветы.

Мішка абскубаў яга..кі лапай, набіваў поўны рот малінамі разам з лісцем, з маленькімі мура..камі.

*Паводле М. Лынькова*

- Як праверыць правапіс слоў з прапушчанымі літарамі?
- Спішыце першую частку тэксту, падкрэсліце ўстаўленыя літары.



**25.** Прачытайце. Пра якое «люстраное акно» апавядае аўтар?

### Крыніца

Пад гарою расла в..рба. Пад в..рбою было люстраное акно ў з..лёнай траве. Тут пачынаўся і бе.. да рэчкі малы ручаёк. З узгорка да в..рбы вытапталі сце..ку. Усе прыходзілі сюды піць ваду.

Зімою люстраное акно не зам..рзала. Па́ра, як з мі..кі, клубілася над ім. А дзе.. казаў, што з..мля дыхае тут.

*Паводле І. Грамовіча*



*Люстраны́* — рус. *зерка́льный*.

- Растлумачце напісанне слоў з прапушчанымі літарамі.
- Спішыце, падкрэсліце ўстаўленыя літары.

## Цвёрдыя і мяккія зычныя гукі. Абазначэнне мяккасці зычных на пісьме




**26.** Прачытайце. Дапоўніце выказванне назвамі літар.

Такія гукі, як [б] і [б’], [м] і [м’], [с] і [с’], вельмі падобныя па вымаўленні. Яны адрозніваюцца толькі цвёрдасцю-мяккасцю. Парныя па цвёрдасці-мяккасці гукі абазначаюцца аднолькавымі літарамі. Адрозніць цвёрдыя і мяккія гукі пры напісанні слоў дапамагаюць літары, якія абазначаюць галосныя гукі: ..., ..., ..., ..., ... і літара ... .

**27.** Спішыце. Падкрэсліце словы, якія адрозніваюцца толькі адным гукам.

Васіль вёз сена воз.

- Назавіце ўсе мяккія зычныя гукі ў словах. Як мяккасць кожнага з іх перадаецца на пісьме?

**28.** Прачытайце. З чым параўноўвае аўтар работу павучка?

**Павуковы красёнцы**

Прачынаецца ў лесе
на зары павучок.
Ён **красёнцы** развесіў
на альховы сучок.

Пазяхае дрымота,
спяць мурашкі яшчэ.
А павук за работай —
і **прадзе** сам і тчэ.

*Х. Гурыновіч*



*Красёнцы* — тут: ніткі, з якіх ткуць палатно на ткацкім станку.

● Вусна назавіце ўсе галосныя і зычныя гукі ў выдзеленых словах.

● Спішыце першую частку верша. Падкрэсліце галосныя літары, якія абазначаюць мяккасць зычных гукаў.

**29.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы літары, якія абазначаюць мяккасць зычных гукаў.

Радз..ма мая дарагая,
ты ў шчасці жаданым жыві.
Я сэрцам табе прыс..гаю
у шчырай сыноўняй л..бві.

*А. Бачыла*

**30.** Прачытайце. Назавіце словы, у якіх усе зычныя гукі мяккія.

1. — Прывітанне! Як справы?
— Дзень добры! Дзякуй, вельмі добра.

2. — Добрай раніцы! Як сябе адчуваеш?
— Дзякуй. На жаль, не зусім добра.

- Запомніце выразы, з якіх можна пачынаць размову.
- Запытайцеся ў суседа па парце, як у яго справы. А ён няхай адказа вам.



**31.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы ***ь.***

Скора, скора дз..мухне холад,
снег пасыпле з сівых хмар,
зноў мароз надыдзе люты
і клубком паваліц.. пар.
Будуц.. ветры за вуглямі
выц.., і плакац.., і стагнац..,
а ў той вечар доўгі, цёмны
песні ў коміне спявац.. .

*Я. Колас*




**32.** Прачытайце, дапаўняючы выказванне назвамі літар.

Гукі [д] і [т] — цвёрдыя. Іх «мяккіх братоў» завуць [дз’] і [ц’]. Пасля літар ***д*** і ***т*** пішуцца галосныя літары ..., ..., ..., ..., ..., а пасля ***дз*** і ***ц*** — літары ..., ..., ..., ..., ... . Гукі [д] — [дз’], [т] — [ц’] часта чаргуюцца пры змяненні слоў: *сад — у садзе, хата — у хаце.*

У гука [ц’] ёсць яшчэ адзін «сваяк» — цвёрды [ц]: ***цэгла***, ***цыбуля***, ***цукар***. Але [ц] не замяняецца на [ц’].

- Якія мяккія гукі з’яўляюцца парнымі для [д] і [т]?

**33.** Прачытайце скорагаворкі. Які гук паўтараецца ў іх часцей за ўсё?

Трухлявую дзераві́ну дзятлы дзяўбуць дзюбамі.
Дзяды і дзядзькі дзялілі дзялянкі.



*Дзяля́нка* — участак зямлі для апрацоўкі.

- Вывучыце скорагаворкі і патрэніруйцеся вымаўляць іх хутка.

**34.** Прачытайце. Якімі словамі паэт апісвае нахіленыя над вадой галіны вербаў?

Там, дзе косы мыю..ь вербы
ў яснай глыбіні,
паласатыя, як зебры,
хо..яць акуні.

Ледзь закінеш толькі ву..у —
не зявай, браток:
на ва..е, нібы са спуду,
дрогне паплавок.

*А. Вялюгін*



*Са спу́ду* — рус. *с перепу́гу.*
*Ледзь* — рус. *чуть, едва.*

- Спішыце, устаўляючы літары ***д***, ***т*** або ***дз***, ***ц***.

**35.** Прачытайце. Запомніце выразы, з дапамогай якіх мы гаворым пра час.

1. — Скажыце, калі ласка, колькі цяпер часу?
— Пятнаццаць мінут трэцяй. (Дзве гадзіны пятнаццаць мінут.)

2. — Вы не падкажаце, якая зараз гадзіна?
— Канечне. Палова першай. (Дванаццаць гадзін трыццаць мінут.)

**36.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце літары ***дз*** і ***ц*** разам з наступнымі галоснымі.

1. У колькі гадзін прыйдзе бацька? 2. Цётка прыедзе ў гадзіну дня. 3. А якой гадзіне ты ідзеш у школу? 4. Урокі пачынаюцца а восьмай гадзіне.

● Адкажыце, а якой гадзіне вы вяртаецеся дадому са школы. У колькі гадзін прыходзяць з працы вашы бацькі?



**37.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны ў словах?

1. Ціха месяц а..іно кі хо..іць у небе над зямлёю. 2. Мы чакалі не..ярпліва лета, цёплых, ясных дзён. 3. Між узгоркаў і курганаў с..ежка вузкая ляжы..ь. 4. У апус..елым садку глуха ве..ер шуміць.

*Я. Колас*

● Спішыце, устаўляючы літары ***дз*** і ***ц***. Падкрэсліце ўстаўленыя літары.




**38.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні.

Некаторыя цвёрдыя зычныя гукі не маюць «мяккіх братоў». Гэта гукі [ж], [дж], [ч], [ш], [ц] і [р]. Такія гукі называюць **няпарнымі цвёрдымі**.

Пасля літар ***ж, ч, ш, р, дж*** пішуцца літары ***а, о, у, э, ы***: *жоўты*, *шэры*, *чысты*, *ураджай*, *джэм*.

- Якія зычныя гукі ў беларускай мове няпарныя па цвёрдасці—мяккасці?
- Якія літары пішуцца пасля ***ж, ч, ш, р, дж***?

**39.** Прачытайце верш услых. Сачыце за правільным вымаўленнем гука [ч].

### Авечкі ды хмаркі

На крутым беразе **рэчкі**
пасуцца чатыры **авечкі**,
бачаць хмаркі ў люстэрку рэчкі
ды кажуць: «Плывуць авечкі!»

Углядаюцца хмаркі з нябёс —
бачаць авечыя ка́ркі,
вачам не вераць нябось:
«Пасуцца чатыры хмаркі!»

*Д. Бічэль-Загнетава*



*Ка́рак* — рус. *хо́лка, задняя часть шеи.*



● Спішыце першую частку верша. Падкрэсліце літары, якія пішуцца пасля ***ж, ч, ш, р***.

● Вусна перакладзіце выдзеленыя словы на рускую мову. Чым адрозніваецца вымаўленне зычных у гэтых беларускіх і рускіх словах?

**40.** Прачытайце скорагаворкі. Патрэніруйцеся хутка вымаўляць іх.

Руды Рыгор гроб грыбы граблямі.

Тры дрывасекі, тры дрываколы на трох дварах дровы калолі.

● Спішыце другую скорагаворку. Падкрэсліце літару ***р*** разам з наступнай літарай.

**41.** Прачытайце верш. Чаму светлячкі перасталі свяціць?

### Светлячкі

Светлячкі блішч..ць вакол.
Іх — як у горадзе акон.
Я набраў іх у кіш..ню,
дома ў шклянку памясціў:
будуць, як ліхтар, свяціць.
Пазайздросціць заўтра Ж..ня.

Надыш..ў наступны веч..р,
шлях разліўся ў небе Млечны.
З-за хмур..нкі выйш..ў месяц.
Светлячкі ж зусім не свецяць.
Не блішч..ць ніводны болей.
Адпушчу іх лепш на волю.

*Х. Гурыновіч*



*Пазайздро́сціць* — рус. *позави́дует*.

● Якія літары трэба пісаць у словах замест кропак? Спішыце гэтыя словы. Падкрэсліце ўстаўленую літару разам з папярэдняй.

У з о р. *Блішчаць.*

**42.** Прачытайце словы. Выпішыце толькі назвы птушак.

Вавёрка, верабей, качка, вожык, зязюля, мастак, шпак, лістапад.

● У выпісаных словах падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.



**43.** Прачытайце.

Наш настаўнік спеваў Алесь Мікалаевіч тлумач..ў у класе нотную грамату і навуч..ў нас спяваць у хоры. Ён казаў, што песня вельмі магутная, калі гучыць у хоры. Яна ўсё дапаможа зрабіць ч..лавеку.

*Паводле І. Грамовіча*



*Тлума́чыў* — рус. *объясня́л*.

● Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары.

## Напісанне слоў з *ў*

**44.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні.

Зычны гук [ў] вымаўляецца толькі пасля галосных гукаў. Таму яго «сяброўка» літара ***ў*** (*у* нескладовае) пішацца толькі пасля літар, якія абазначаюць галосныя гукі. Літара ***ў*** можа быць і ў сярэдзіне слоў,

і ў канцы, і нават у пачатку: *лоўка, пайшоў, адпачывала ўлетку.*

Памятайце, што літара ***ў*** не бывае вялікай: *цётка Уладзя, вуліца Усходняя.*

- Калі вымаўляецца зычны гук [ў]?
- Калі пішацца літара ***ў*** (*у* нескладовае)?

**45.** Прачытайце. Чаму дзяцел не спявае, як іншыя птушкі?

Да..ным-да..но вялікі чарадзей ствары.. для кожнай птушкі сваю песню. Каму кукаванне, каму свіст, каму звон. Птушкі зляцеліся з ..сіх старон і разабралі песні. Толькі дзяцел спазні..ся, і яму не хапіла песні. Напэ..на, нехта прыхапі.. яе сабе ў запас. З той пары дзяцел увесь свой век б'е дзюбай — пытаецца ў дрэ.., хто ўзя.. яго песню.

- Якія літары трэба ўставіць замест кропак у словах?
- Выпішыце гэтыя словы. Падкрэсліце літары ***у*** і ***ў***.

**46.** Перакладзіце словы на беларускую мову і запішыце іх.

Подставка, правда, ровный, полный, славный.

- Які гук вымаўляецца ў беларускіх словах замест [в] і [л] у рускіх словах?

**47.** Прачытайце, устаўляючы назвы краіны, горада, вёскі і ракі.

Народны паэт ... Якуб Колас нарадзіўся на хутары непадалёку ад вёскі ... . На беразе ... прайшло яго дзяцінства. У горадзе ... ён вучыўся на настаўніка.

Словы для даведкі: *Нясві́жы, Нёмана, Беларусі, Мікала́еўшчына.*

● Спішыце. Падкрэсліце ўстаўленыя словы. Чаму яны пішуцца з вялікай літары?

**48.** Прачытайце. Якія літары трэба ўставіць замест кропак: ***у*** ці ***ў***?

Калі вы пад'язджаеце да Белавежскай пушчы, вы бачыце высок..ю бел..ю вежу. Болей за сем стагоддзя.. таму назад князь Уладзімір Васільевіч Валынскі загада.. пабудаваць на рацэ Лясной вартав..ю веж.. для аховы княства ад варожых плямёна.. . Узводзі.. яе народны ..мелец Алекса. Высока ..здымалася грозная вежа. Ад яе і атрымала назву лясістае месца.

● Як Белавежская пушча атрымала сваю назву?
● Знайдзіце ў тэксце імёны, імя па бацьку, прозвішча, назву ракі, назву леса. Як яны пішуцца?



**49.** Прачытайце. Якія літары трэба ўставіць замест кропак?

Гэта было там, дзе я нарадзі..ся. Вёска наша стаяла паміж двух гасцінца.. . Гэтыя гасцінцы праходзілі па ..згорках.

Месца было глухое. На захадзе ц..кла р..чка. З по..дня падступа.. лес. На по..начы было б..лота.

*Паводле І. Грамовіча*



*Гасці́нец* — шырокая дарога.
*По́ўнач* — рус. *се́вер*; *по́ўдзень* — рус. *юг*.

● Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары. Падкрэсліце іх.

## Падоўжаныя зычныя гукі. Іх абазначэнне на пісьме




**50.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні.

У некаторых словах паміж двума галоснымі гукамі сустракаюцца асаблівыя зычныя. Яны вымаўляюцца даўжэй, чым звычайна: *Палессе, суддзя, заціша, піццё*. Іх называюць **падоўжанымі.**

Падоўжаныя зычныя гукі на пісьме перадаюцца дзвюма літарамі: ***сс, шш, цц***, а падоўжаны [дз’] — літарамі ***ддз***.

● Якія гукі называюцца падоўжанымі? Назавіце словы з падоўжанымі гукамі.

● Як падоўжаныя гукі перадаюцца на пісьме?

**51.** Прачытайце радкі з вершаў Якуба Коласа. Карыстайцеся словамі для даведкі.

1. Поле голае шырока ... роўнаю лягло.
2. Люблю я ... шырокіх палёў.
3. Як прыемна пахне ... !
4. Высока разняў сваё ... арол.
5. У ... льецца звонкі галасок.

Словы для даведкі: *паднябессі, прыволле, збожжа, гладдзю, крылле.*

● Спішыце, устаўляючы патрэбныя словы. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць падоўжаныя гукі.

● Падзяліце для пераносу словы *паднябессе, збожжа, крылле.*

**52.** Прачытайце. Якія літары трэба ўставіць замест кропак?

Беларускае слова *жыта* ўзнікла шмат стаго..яў таму назад. Словы *жыта* і *жыць* — сваякі. І гэта

невыпадкова. Хлеб — аснова харчава..я і жы..я. Месца для захава..я збо..а ў славян здаўна называлася жытніцай.

А зараз мы называем жытніцай багаты ўраджаем край, які дае краіне збо..а.

*Паводле І. Шпадарука*



*Харчава́нне* — рус. *пита́ние*.

- Спішыце першы абзац, устаўляючы патрэбныя літары.

**53.** Прачытайце, устаўце замест малюнкаў словы.

1. Раніцай я снедаю. На снеданне я ем  і п'ю  з .

2. Я абедаю ў школе. На першае я ем , а на другое — .

3. На полудзень я ем  з .

4. Пасля прагулкі я вячэраю. Мая вячэра — гэта .

Словы для даведкі: *яечня, чай, каша, сырок, смажаная бульба, катлета, боршч, пячэнне, яблык, сок, малако, булачка, салата.*

- Запішыце сказы пад лічбай 1, замяняючы малюнкі словамі.
- Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць падоўжаныя гукі.

**54.** Запытайцеся ў суседа па парце, што ён сёння еў ці будзе есці. А ён няхай адкажа вам.

У з о р. 1. — Што ты сёння еў на снеданне?
— Вараныя яйкі і каву з малаком.

2. — Што ты будзеш есці на абед?
— Курыны булён на першае і мяса з бульбяным пюрэ на другое.



**55.** Прачытайце. Чаму першы месяц восені называецца *верасень*?

Восе..ю на ўзле..і ўецца верас — расліна з дробным лісцем і маленькімі ліловымі кветкамі. А ў лесе — сапраўднае грыбное бага..е. Баравікі-прыгажуны нібы самі просяцца ў кошык.

- Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць падоўжаныя гукі.
- Назавіце словы з ***ў***. Растлумачце напісанне гэтай літары.

## Напісанне слоў з раздзяляльнымі знакамі




**56.** Прачытайце, устаўляючы патрэбныя словы.

Часцей за ўсё зычны і галосны гукі цесна далучаюцца адзін да аднаго: ***песня, семя***. Але часам іх раздзяляе гук [й’]: ***п’е, сям’я***. На пісьме гэта перадаецца з дапамогай ... знакаў: ... і ... . ... — гэта надрадковы значок, які пішацца перад галоснымі ***е, ё, ю, я, і*** пасля розных зычных, акрамя ***л***: *аб’ява, пер’е, пад’ём*. Пасля ***л*** пішацца ... : *льецца, Ульяна*.

Словы для даведкі: ***раздзяляльныя (знакі), апостраф, мяккі знак.***

**57.** Прачытайце. Растлумачце правапіс слоў з апострафам і раздзяляльным мяккім знакам.

Я пасвіў авечак каля Загор’еўскага лесу. У любое надвор’е сачыў, каб воўк не ўкраў ды не з’еў ягняці. Для пастуха жаваранкі — свой хор. З высокага неба льецца птушыны спеў. Песня пранікае ў сэрца. Я старанна бярог птушыную сям’ю. Мне здавалася, што жаваранкі таксама прывыклі да мяне, адносіліся з давер’ем.

*Паводле І. Грамовіча*

- Выпішыце словы з раздзяляльнымі знакамі.

**58.** Падбярыце да слоў з правага слупка словы з левага слупка, якія падыходзяць па сэнсе.

| | |
|---|---|
| дружная | вераб'і |
| яркае | пад'ём |
| жвавыя | сям'я |
| цяжкі | тыгр |
| раз'юшаны | сузор'е |



*Раз'ю́шаны* — моцна раззлаваны, люты.

● Запішыце спалучэнні слоў, якія ў вас атрымаліся. Падкрэсліце зычную і галосную літары, паміж якімі пішацца апостраф.

**59.** Адгадайце загадкі. Спішыце іх, устаўляючы апостраф ці мяккі знак.

1. Доўгі насок, тонкі галасок, хто яго заб..е, той сваю кроў прал..е.

2. Мае чатыры нагі, ды не ходзіць.
Мае пер..е, ды не паляціць.

Словы для даведкі: *падушка, камар*.

**60.** Прачытайце словы. Выпішыце тыя з іх, якія можна абазначыць словамі *надвор'е, з'ява прыроды*.

Навальніца, дождж, вячэра, маланка, падарожжа, вясёлка, гром, завіруха.

Узор. *Надвор'е, з'явы прыроды: навальніца,* ..., ... .

- Вусна складзіце сказ з любым выпісаным словам.

**61.** Прачытайце. Што трэба ўставіць замест кропак: раздзяляльны знак або яшчэ адну літару?

1. У хаце ўся сям..я збярэцца. 2. Толькі дзетак крык вясёлы л..ецца ў вуліцах руччом. 3. Свішчуць пташкі і гамоняць, вераб..і крычаць. 4. І панёсся на прывол..і жнейчын тонкі галасок. 5. А пад столлю ў павуціне б..ецца муха-сіраціна і так жаласна звініць.

*Я. Колас*



*Столь* — рус. *потоло́к*.

- Выпішыце словы з устаўленымі літарамі і апострафам.



**62.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і раздзяляльны знак апостраф.

### Пажар

Кавалак неба, які бачылі яны праз акенца, ц.. пер здаваўся ж..вым. Водбліскі агню ц..мнелі, гас-

лі, знікалі і зноў успыхвалі. Здавалася, вось-вось успыхне неба і ападзе на з..млю міл..ёнамі іскраў. Нібы аграмадная птушка ўзмахвала агн..вым крылом, і яно рассыпала па небе залатое пер..е.

*Паводле М. Лынькова*

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

**1.** Назавіце ўсе літары беларускай мовы ў алфавітным парадку.

**2.** Калі пішуцца літары ***о, э***, а калі — ***а***?

**3.** Растлумачце напісанне выдзеленых літар у парах слоў: *в**я**сёлы — вес**я**лосць, сн**я**гір — снегіры, з**я**лёны — зел**я**нець.*

**4.** Якія галосныя літары пішуцца пасля літар ***ж, р, ч, ш***?

**5.** Калі пішацца літара ***ў***?

**6.** Калі пішацца апостраф, а калі — раздзяляльны мяккі знак?

**7.** Якія словы пішуцца з вялікай літары?

**8.** Запішыце пад дыктоўку словы *тэлевізар, вясёлка, пенал, дарожка, жыццё, цудоўны, пад'ём, льецца.*

# ТЭКСТ

## Тэма і асноўная думка тэксту. Загаловак

**63.** Прачытайце.




Вітаю вас, мае маленькія сябры! Я пазнаёмлю вас з маімі сябрамі — тэкстамі. Тэксты складаюцца са сказаў. Але сказы ў іх не проста стаяць адзін за адным, а размяшчаюцца паслядоўна, у залежнасці ад таго, як развіваюцца падзеі.




- Адкажыце на пытанні.

  1. З чаго складаецца тэкст?
  2. Як размяшчаюцца сказы ў тэксце?

**64.** Прачытайце сказы. Ці ўтвараюць яны тэкст? Калі не, растлумачце чаму.

1. Па дарозе яна ўбачыла квяцістую ліпу і прысела на кветку.
2. А пчала схавалася пад шырокі ліпавы лісток.
3. У гэты час крапянуў дожджык.
4. Пчала ляцела ў свой вулей дадому.

*С. Шушкевіч*

● Спішыце сказы ў такім парадку, каб у вас атрымаўся тэкст.

**65.** Складзіце і запішыце сказы.

1. Летам, добры, быў, на яблыкі, ураджай.
2. На беразе, сажалкі, сядзелі, з вудамі, хлапчукі.
3. Начныя, ахвотна, грыбамі, ласуюцца, барсукі.

● Ці атрымаўся ў вас тэкст? Калі не, растлумачце чаму.

**Тэкст** — гэта выказванне на пэўную тэму. Кожны тэкст складаецца са сказаў, якія аб'ядноўваюцца агульнай тэмай і асноўнай думкай.

**Тэма** — гэта тое, аб чым гаворыцца ў тэксце.

**Асноўная думка тэксту** — гэта галоўнае, што аўтар хоча сказаць чытачу.

**66.** Адкажыце пісьмова на пытанні.

1. З кім ты сябруеш?
2. Як завуць твайго сябра?
3. Колькі яму год?
4. У якія гульні вы любіце гуляць разам?

- Якая тэма аб'ядноўвае запісаныя вамі сказы?

**67.** Прачытайце тэкст. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту.

Калісьці вельмі даўно людзі даведаліся, што ў Лесавіка ёсць дзівосныя скарбы. Усе лясы і пушчы перакапалі, шукаючы незлічоныя багацці. Не стала куды прытуліцца беднаму Лесавіку. Пашкадаваў небараку кусцік чарнічніку. Ён не забаяўся, схаваў ляснога ўладара і яго скарбы пад сваімі галінкамі. І людзі не звярнулі ўвагі на маленькі кусцік побач з магутнымі ялінамі і соснамі.

З таго часу ў знак вялікай удзячнасці Лесавік апякуецца над чарніцамі, самаручна рассяляе чарнічнік па лясных абшарах.

*У. Ягоўдзік*



*Небара́ка* — рус. *бедня́га*.
*Абша́р* — рус. *просто́р*.
*Апякава́цца* — рус. *забо́титься*.
*Самару́чна* — рус. *делать что-либо самому, без помощи других*.

**68.** Адкажыце на пытанні да тэксту папярэдняга практыкавання. Свае адказы запішыце.

1. Што шукалі людзі ў лясах і пушчах?
2. Чаму ніхто не здолеў знайсці дзівосных скарбаў Лесавіка?
3. Як аддзякаваў Лесавік чарнічніку?



**69.** Прачытайце. Спішыце сказы ў такім парадку, каб у вас атрымаўся тэкст.

1. І таму ў пакойчыку было заўжды ўтульна.
2. Святланка вельмі любіла кветкі.
3. Кветкі таксама любілі дзяўчынку і стараліся як мага прыгажэй квітнець.
4. Кожную раніцу палівала іх, абрывала пажухлыя лісты.

*А. Зянько*

*заўжды́*

**70.** Прачытайце. Вызначце, пра што гаворыцца ў тэксце.

**Мудранка**



На лясной палянцы — суцэльны дыван з траў і кветак. Сярод іх таіцца расліна, якая завецца мудранка. Выглядае яна вельмі прыгожа. Чатыры шырокія, доўгія лісткі, а паміж

імі — вялікая чорная ягада. Але не надумайся браць яе ў рот, бо мудранка — ядавітая расліна.

*Паводле Ю. Дзмітрыева*

- Што дапамагло вам пры вызначэнні тэмы тэксту?




Тэма тэксту можа быць заяўлена ўжо ў загалоўку або ў першым сказе.

**Загаловак** — гэта назва тэксту.

**71.** Прачытайце верш. Растлумачце, чаму ён мае назву «Беларусь».

### Беларусь

Мой родны край! На цэлым свеце
Няма цудоўнейшай зямлі,
Дзе так ласкава сонца свеціць
І збажыной шумяць палі.
У сэрца ты запаў навекі,
Куточак, сэрцу дарагі,
Люблю твае бары і рэкі,
Твае квяцістыя лугі.

*Т. Лаўрыновіч*

- Якім вы бачыце свой родны край (вёску, горад, любімыя мясціны)? Раскажыце аб гэтым.

**72.** Прачытайце тэкст.

### Вясёлкі над зямлёю

Пяць вясёлак над зямлёю! Палі і лясы, вёскі пад імі ўяўлялі сабой вялізную карціну незвычайнай прыгажосці.

Калі насоўвалася хмара, жаваранкі пахаваліся і маўчалі. А цяпер нібыта хто сыпануў іх у сіняе неба.

Людзі, старыя і малыя, выйшлі з хат і дзівіліся на вясёлкавы цуд.

*З. Бяспалы*

● Аўтар даў тэксту загаловак «Вясёлкі над зямлёю». Ці можна даць іншы загаловак (напрыклад, «Вясёлкавы цуд»)? Які з гэтых загалоўкаў будзе адпавядаць тэме, а які — асноўнай думцы тэксту?

● Які сказ перадае асноўную думку тэксту? Запішыце яго.




У **загалоўку** можа быць заяўлена не толькі тэма, але і асноўная думка тэксту.

**73.** Прачытайце.

### Лета надламалася

Канец ліпеня. Пазней пачало ўставаць сонейка. Ды і грэе яно ўжо не так, як раней.

Большасць птушак прымоўкла. І толькі нямногія зрэдку ўсё яшчэ працягваюць свае спевы.

Вось на ўзлессі жоўценькая пеначка спявае. Але песенька яе гучыць неяк абыякава, ціха.

Лета надламалася. І ў зялёных кронах бяроз ужо мільгацяць першыя жоўтыя лісты — вестуны залатой восені.

*Паводле Р. Ігнаценкі*

- Што заяўлена ў загалоўку тэксту — тэма ці асноўная думка аўтара?
- Адкажыце (пісьмова) на пытанні.
  1. Як грэе сонейка ў канцы ліпеня?
  2. Хто спявае на ўзлессі?
  3. Дзе мільгацяць першыя жоўтыя лісты?

**74.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму. Як можна сфармуляваць асноўную думку аўтара?

Ляцела Сарока ні блізка ні далёка.

Якраз Заяц на палянку выбег. Ужо на зіму пачаў пераапранацца: ногі і жывот пабялелі. Убачыла яго Сарока і ў крык:

— Заяц у белых штанах і ў белай кашулі!

Доўгім хвастом затрэсла, далей паляцела — лясным жыхарам гэтую вестку панесла.

Вось такая яна, Сарока. Усюды бывае, усё бачыць і ўсё знае. Ды толькі заўсёды здзіўляецца: чаму яе балбатухай называюць?

*Паводле Р. Ігнаценкі*

● Які загаловак адлюстроўвае і тэму, і асноўную думку тэксту?

1. Як Сарока з Зайцам сустрэлася.
2. Лясная балбатуха.
3. Сарока-вандроўніца.

● Выпішыце сказы, якія «падказваюць» вам і тэму, і асноўную думку тэксту.



**75.** Прачытайце. Як вы думаеце, што адлюстроўвае загаловак у гэтым тэксце — тэму ці асноўную думку аўтара?

**Абуджэнне**

Настаў ружовы ранак. Сонца расчэсвала свае залатыя кудзеркі. У свежым блакіце неба купаліся жаваранкі. Дрэвы пацягваліся, выпроствалі плечы. Клёны разгладжвалі лісты. Яліны праўлялі сваю калючую зялёную шчэць. І ўсё было ахутана цёплымі пералівамі паветра.

*У. Жукроўскі*



*Кудзе́ркі* — рус. кудря́шки.
*Шчэць* — рус. щети́на.

● Выпішыце з тэксту сказы, у якіх гаворыцца пра абуджэнне дрэў.

## Часткі тэксту

### (пачатак, асноўная частка, канцоўка)

**76.** Прачытайце. Падумайце, ці можна назваць тое, што вы прачыталі, тэкстам. Калі не, то растлумачце чаму.

**Мураш і яго сябры**

Жыў-быў у лесе мураш. Працавіты, паслухмяны, добры. Ён сябраваў з мухай, страказой і камарыкам. Сябры часта сустракаліся ў гасцях у мураша. Ён вельмі любіў частаваць іх смачнымі пірагамі.

Аднойчы мураш запрасіў сяброў на дзень нараджэння. Але на свята не прыляцела страказа.




Тэкст заўсёды павінен мець **пачатак, асноўную частку** і **канцоўку**!

**77.** Спішыце тэкст, падзяляючы яго на сказы. Прыдумайце да яго загаловак.

Каля вялікай сасны жыў у нары стары барсук аднойчы захацелася яму мёду вылез ён з нары і пайшоў па лесе доўга ён блукаў, пакуль не натрапіў на асінае гняздо толькі барсук дабраўся да сотаў, як наляцеў на яго рой вос і выратавала барсука тоўстая скура з доўгаю поўсцю.

*Паводле З. Бяспалага*

- Знайдзіце ў тэксце сказы, якія афармляюць:
  а) пачатак;
  б) асноўную частку;
  в) канцоўку тэксту.

**78.** Вызначце агульныя прыметы тэкстаў. Выберыце правільныя адказы і запішыце іх.

1. Яны маленькія.
2. Яны маюць сваю тэму.
3. Яны складаюцца з гукаў.
4. Яны складаюцца са сказаў. Усе сказы ў іх звязваюцца па сэнсе.
5. Яны маюць (ці да іх можна прыдумаць) загалоўкі.



**79.** Прачытайце тэкст. Адшукайце ў ім пачатак, асноўную частку і канцоўку. Запішыце тэкст правільна. Кожную частку пішыце з чырвонага радка.

Жыў-быў на лясной палянцы Зайка. Аднойчы пасадзіў ён чатыры яблынькі. Перазімавалі дрэўцы, вясною сокам наліліся, зазеляненелі. Кожнае лета Зайка з азярца вядзерцам ваду насіў і яблынькі паліваў. Праз гадоў колькі Зайка налюбавацца не мог на свой садок. Восенню галінкі дрэў гнуліся ад спелых пладоў. Добры садоўнік атрымаўся з Зайкі!

*Паводле А. Зянько*

- Прыдумайце да тэксту загаловак (вусна).

## Сэнсавыя часткі тэксту

**80.** Разгледзьце ўважліва малюнак. Як вы разумееце яго сэнс?




● Успомніце, на якія часткі могуць дзяліцца тэксты. Чаму?




Тэксты могуць дзяліцца на сэнсавыя часткі.

Кожная такая частка мае сваю маленькую тэму. Ідучы ад адной маленькай тэмы да другой, аўтар паступова прыходзіць да агульнай тэмы і паслядоўна раскрывае змест тэксту.

**81.** Прачытайце тэкст. Колькі ён мае сэнсавых частак? Пра што гаворыцца ў кожнай частцы?

### Маша і чмель

Маша ахвотна ездзіць на дачу. Дзядуля называе яе дачніцай.

Аднойчы ў нядзелю Маша палівала кветкі ў садзе. Прысела каля іх і паіла з леечкі. Толькі панамка вытыркалася з кусцікаў.

У гэты ж час бухматы чорна-аранжавы чмель абляатаў кветкі. Убачыў Машыну панамку з каляровымі пялёсткамі і вырашыў, што гэта вялізны рамонак. Пачаў шукаць на ім мёду, ды нічога не знайшоў. Толькі Машу напалохаў сваім вуркатаннем.

*Паводле У. Ліпскага*



*Бухма́ты* — рус. *мохна́тый*.

● Знайдзіце ў тэксце адказы на пытанні і запішыце іх у сшытак.

1. Як называе дзядуля Машу?
2. Што рабіла Маша ў нядзелю ў садзе?
3. Хто напалохаў Машу ў садзе?

**82.** Прачытайце тэкст. Колькі ў ім сэнсавых частак?

### Чароўная Нарач

Возера Нарач — жамчужына Беларусі.

Чыстае неба адлюстроўваецца ў яго празрыстай вадзе. Сонца цэлымі днямі пазірае ў нарачанскае люстра. Начамі любуюцца ў ім на сябе зоркі.

Бераг возера вартуюць сосны. А бераг у Нарачы цягнецца ажно на 41 кіламетр. Вунь колькі вартаўнікоў-сосен у возера!

Майскімі днямі каля Нарачы кукуюць зязюлі. Шмат каля возера і салаўёў. Яны любяць спяваць у маі. Трэлі іх сярэбранымі хвалямі перакочваюцца цераз усю Нарач.

*У. Ліпскі*

● Вызначце тэмы сэнсавых частак. Якая агульная тэма раскрываецца ў іх?

● Выпішыце з тэксту сказы, у якіх аўтар расказвае пра празрыстую ваду Нарачы. Падкрэсліце ў іх словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў.

**83.** Прачытайце тэкст. Чаму аўтар даў яму загаловак «Клубок з лісця»? Колькі сэнсавых частак можна выдзеліць у гэтым тэксце?

### Клубок з лісця

Стаяла сярэдзіна восені. З бяроз, рабінак і клёнаў паціху ападала на зямлю пажоўклае лісце. Я ішоў па лесе і раптам убачыў вялікі клубок з лісця. Ён рухаўся ў мой бок. Убачыў мяне, спачатку прыпыніўся, а потым зноў зрушыўся з месца і схаваўся за шырокім

пнём. Я падышоў бліжэй і ўбачыў у выжарыне пня вожыка. Ён высцілаў лісцем на зіму сваё гняздо.

*Я. Галубовіч*



*Выжа́рына* — выгарэлае месца.

- Спішыце, падзяляючы тэкст на сэнсавыя часткі.
- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.



**84.** Прачытайце. Вызначце, колькі ў тэксце сэнсавых частак. Пра што гаворыцца ў кожнай сэнсавай частцы?

На зіму мы лета ў халадзільніку ці ў шафе хаваем. Як? А вось як. Чэрвеньскім ранкам, яшчэ да сонейка, узнімае нас маці з ложкаў і прыгаварвае: «Уставайце, дзеткі, па ягады пойдзем».

Сон неахвотна адпускае нас, але мы ўстаём. Па роснай звілістай сцяжынцы ідзём да лесу. Свежае, нібы настоенае на туманах і кветках паветра, праганяе сон-дрымоту. Ды і маці падбадзёрвае: «Хутчэй, хутчэй, дзеткі! Летам збярэш, а зімой як знойдзеш».

*М. Янчанка*

- У якой сэнсавай частцы аўтар выказвае асноўную думку тэксту? Знайдзіце і выпішыце гэтую сэнсавую частку.

## План тэксту

**85.** Прачытайце. Падзяліце тэкст на сэнсавыя часткі. Падбярыце да іх загалоўкі. Запішыце гэтыя загалоўкі як пункты плана.

### Смелая вавёрачка

Аднекуль наляцеў вецер. Трывожна зашумеў лес. Раскацiста ўдарыў гром. Блiснула маланка. І як з вядра лiнуў цёплы летнi дождж.

Стаю пад елкаю. Побач — кошык з грыбамi. На версе паблiскваюць карычневымi капялюшыкамi тры баравiчкi.

Хутка дождж пацiшэў. Я збiраўся ўзяць кошык i пайсцi дамоў. Нагнуўся ды так i застыў ад здзiўлення. У кошыку на грыбах сядзела маладая вавёрачка! Яна трымала баравiчок у пярэднiх лапах i смела паглядала круглымi вочкамi-пацеркамi.

Я зразумеў у чым справа i засмяяўся. Пакуль я стаяў пад ялiнаю, вавёрка да зiмы рыхтавалася.

*Я. Галубовіч*

- Успомніце з урокаў рускай мовы, навошта нам план тэксту.
- Што адлюстроўваецца ў ім?
- Як складаецца план?




У плане адлюстроўваюцца змест і будова тэксту.

Дзякуючы плану мы дакладней уяўляем сабе будову твора і лепш разумеем яго змест.

Каб скласці план, трэба:

- падзяліць тэкст на сэнсавыя часткі;
- вызначыць тэму кожнай сэнсавай часткі;
- запісаць тэмы сэнсавых частак як пункты плана.

**86.** Прачытайце.

**Кветкі плачуць**

Раніцою бабуля Зося нарэзала на агародзе букет півонь. Паставіла іх у гладышы на стол.

Кветкі былі расянымі, і з іх пачалі падаць на чысты абрус кропелькі вады.

— Бабуля, — заўважыў гэта Андрэйка, — глядзі, яны ж слёзныя, не трэба было зразаць іх, яны ж плачуць.

*А. Бадак*

- Прачытайце план тэксту. Як ён складзены?
  1. Як півоні апынуліся ў гладышы на стале?
  2. Чаму півоні «заплакалі»?
  3. Што сказаў бабулі Андрэйка?

Звярніце ўвагу! План можна скласці:

1) з тэм кожнай сэнсавай часткі;

2) з пытанняў да кожнай сэнсавай часткі тэксту.

**87.** Разгледзьце малюнкі. Вызначце тэмы (пра што гаворыцца) кожнага малюнка і запішыце іх як пункты плана.









● Выкарыстайце запісаны вамі план і вусна складзіце апавяданне па малюнках.

**88.** Прачытайце. Складзіце план да тэксту. Складзены вамі план запішыце ў сшытак.

### Як на зямлю ноч прыйшла

Даўным-даўно на нашай зямлі было вельмі многа цяпла і святла. Паўсюду цвілі кветкі і з радаснай усмешкай цягнуліся да Сонца, якое не заходзіла ніколі. Людзі жылі шчасліва і багата.

Але злая старая ведзьма Цемра пазайздросціла Сонцу. Доўга думала яна, як адабраць ад Сонца хоць крышынку яго магутнасці. І прыдумала...

Узялася Цемра за працу. Села прасці чорнае прадзіва, каб выткаць з яго палатно.

Аднойчы, калі стомленае Сонца заснула, ведзьма накінула на неба аграмадную чорную посцілку.

Так на зямлі ўпершыню наступіла Ноч.

*Ю. Ярмыш*



*Пра́дзіва* — рус. *пря́жа.*
*По́сцілка* — рус. *покрыва́ло.*

● Раскажыце, як вы складалі план. Колькі пунктаў у вас атрымалася? Чаму? Перакажыце тэкст па плане.

**89.** Самастойна складзіце працяг тэксту «Як на зямлю ноч прыйшла». Запішыце яго ў сшытак.

1. Раскажыце, ці доўгай была радасць Цемры.
2. Што здарылася, калі Сонца прабудзілася?
3. Ці здолела яно прагнаць Ноч з зямлі?
4. Чым закончылася барацьба Цемры з Сонцам?



**90.** Прачытайце тэкст. Колькі ў ім сэнсавых частак? Вызначце тэму кожнай сэнсавай часткі і запішыце як пункт плана.

Люты гэтай зімою быў надта суровы. Ляжалі глыбокія снягі. Трашчалі моцныя маразы. Гулялі сівыя мяцеліцы.

Аднойчы мы з татам вярталіся ў вёску і натрапілі на чародку шэрых курапатак у раўку. Птушкі так аслаблі ад холаду і голаду, што не маглі на крылы ўзняцца.

Тата палавіў бездапаможных птушак, пазапіхваў пад куртку і паспяшаўся дадому.

Дома крылатых палоннікаў мы змясцілі ў прасторную вальеру для трусоў у хляве. Насыпалі зерня, паставілі сподачак з вадою. Жывіце сабе ў зацішку ды сіл набірайцеся!

*Паводле Р. Ігнаценкі*

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Што такое тэкст? З чаго ён складаецца?
2. Чым адрозніваецца тэкст ад асобных сказаў?
3. Што такое тэма і асноўная думка тэксту?
4. Якія часткі заўсёды павінен мець тэкст?
5. Навошта складаецца план тэксту?
6. Як можна скласці план тэксту?

# СКАЗ

## Апавядальныя сказы







**91.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

У гэтым доме жывуць тры мае сябры-сказы: апавядальны, пытальны і пабуджальны. Сёння мы наведаем апавядальны сказ. Хочаце расказаць аб нечым сваім сябрам, паведаміць аб якіх-небудзь падзеях? Гэта можна зрабіць з дапамогай апавядальных сказаў.

- З дапамогай якіх сказаў людзі паведамляюць аб чым-небудзь?

**92.** Прачытайце. Падзяліце апавяданне на сказы.

Чым знакаміты Францыск Скарына ён надрукаваў першыя кніжкі на роднай мове мы ганарымся сваім слаўным земляком у гонар першадрукара названы вуліцы і праспекты ў гарадах нашай краіны.

● Запішыце сказы, якія ў вас атрымаліся. Як вы абазначылі пачатак і канец сказа?

● Прачытайце тыя сказы, у якіх пра нешта паведамляецца.

**Апавядальнымі** называюцца сказы, з дапамогай якіх людзі паведамляюць пра падзеі, свае думкі і пачуцці.

У канцы апавядальных сказаў звычайна ставіцца кропка: *Мы хутка-хутка з горачкі на саначках ляцім. Я люблю свой родны край.*

**93.** Прачытайце загадку і адгадайце яе.

Гэты звер нырае смела.
Хатку ён будуе ўмела.
Пад вадой і на вадзе
Будаўніцтва звер вядзе.

● Колькі ў загадцы сказаў? Як яны называюцца? Чаму?

**94.** Прачытайце. Складзіце са слоў сказы і запішыце іх.

1. Ішоў, вечарам, аднойчы, Максім, на трэніроўку. 2. Ён, маленькага, убачыў, сабачку, каля стадыёна. 3. У сабачкі, лапка, паранена, была. 4. З надзеяй, сумныя, глядзелі, на хлопчыка, вочы.

● Што магло адбыцца далей? Вусна складзіце аб гэтым апавядальны сказ.

**95.** Разгледзьце малюнкі.




● Вусна складзіце па кожнаму малюнку апавядальныя сказы. У якіх сказах паведамляецца: 1) пра падзеі; 2) пра думкі або мары чалавека; 3) пра прыметы прадмета?



**96.** Прачытайце сказы ў такім парадку, каб атрымалася звязнае апавяданне.

### Што зашмат, то нездарова

1. У заапарку жыло малпяня па мянушцы Зубас..ік.
2. Доктар вылечыў малпянятку зубы.
3. Ад гэ..ага ў Зубас..іка забалелі зубкі.
4. Дзе..і любілі яго і частавалі цукеркамі.
5. Ён ся..еў сумны, як стары ..ядок.
6. Зубасцік зноў пачаў скакаць і бегаць.

*Паводле Л. Марціновіч*



*Ма́лпа* — рус. *обезья́на*.
*Малпяня́, малпяня́тка* — рус. *детёныш обезьяны*.

● Запішыце першыя чатыры сказы апавядання, устаўляючы прапушчаныя літары ***д, т*** або ***дз, ц***.

## Пытальныя сказы

**Па-руску:**
вопросительное предложение, вопросительный знак

**Па-беларуску:**
пытальны сказ, пытальнік

Слоўнік

**97.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні.

Вакол нас шмат невядомага. Аднаго мудраца запыталі: «Адкуль вы так многа ведаеце?» Ён адказаў: «Я не саромеўся задаваць пытанні». А задаць пытанне нам дапамагаюць пытальныя сказы.

- Чаму мудрэц так многа ведаў?
- З дапамогай якіх сказаў можна даведацца аб чым-небудзь?

**98.** Прачытайце. Назавіце пытальныя сказы. Што ставіцца ў канцы такіх сказаў?

**Грак**

— Ты з-за мора, варанёны грак?
Дзе ж ты загар..ў пр..гожа так?
— З поўначы.
— Ці ж мог ты там сч..рнець?
Там ад снегу пабялеў мядзведзь.

*Д. Бічэль-Загнетава*

- Выпішыце пытальныя сказы, устаўляючы патрэбныя літары.

**Пытальнымі** называюцца сказы, у якіх заключаецца пытанне.

У канцы пытальных сказаў ставіцца пытальнік: *Хто цябе пакрыўдзіў? Дзе жывуць вавёркі?*

**99.** Прачытайце. Які знак прыпынку трэба паставіць у канцы кожнага сказа?

— Што табе лепш купіць: шакалад ці пернік
— Я лепш з’ем пернік
— Хіба ты не любіш шакалад
— Люблю, але пасля яго трэба ўмывацца



*Пе́рнік* — рус. *пря́ник*.

- Спішыце сказы, расстаўце патрэбныя знакі прыпынку.

**100.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.




Адны пытальныя сказы адрозніваюцца ад апавядальных толькі інтанацыяй: *Паперу вырабляюць з дрэва?* Іншыя ўтвараюцца з дапамогай спецыяльных

пытальных слоў *ці, што, калі, які, колькі, дзе, навошта*: ***Ці*** *ёсць у жывёл свая мова?* ***Колькі*** *ног у павука?* А словы *хіба* і *няўжо* дапамагаюць нам перадаць здзіўленне і недавер: ***Хіба*** *ты не ведаеш ніводнага верша?* ***Няўжо*** *гэты сабачка ўмее танцаваць?*

● З дапамогай якіх слоў утвараюцца пытальныя сказы?

***паву́к***

**101.** Прачытайце пытанні. Устаўце патрэбныя пытальныя словы.

1. ... дапамагаеш ты дома бацькам? 2. ... хатнія справы табе даручаюць? 3. ... ты звычайна ўстаеш раніцай? 4. ... ты ніколі не чытаў казкі?

Словы для даведкі: *калі, хіба, якія, ці.*

● Вусна адкажыце на пытанні.

***во́блака — абло́кі***

**102.** Прачытайце. Устаўце патрэбныя пытальныя словы.

Жыў цікаўны хлопец Андрэй. Хацеў ён усё ведаць.
... на небе воблака ўзялося? ... яно плыве?
... бяжыць вада ў рацэ? ... пасадзіў лес?
Птушкі ўсюды вольна лётаюць. А ... ў чалавека няма крылаў?

Людзі пачалі смяяцца: «... можна ўсё на свеце ведаць?»

*З народнай казкі*

Словы для даведкі: *куды, хто, хіба, чаму, адкуль.*

● Спішыце пытальныя сказы, падкрэсліце ўстаўленыя словы.



**103.** Прачытайце жарт, устаўляючы патрэбныя пытальныя словы.

У школьнай раздзявальні пагасла святло. Петрык спытаў у Андрэйкі:

— ... ты пазнаеш сваё паліто?
— Па гузіках.
— А ... ў цябе гузікі?
— У мяне іх зусім няма.



*Гу́зік* — рус. *пу́говица.*

● Спішыце пытальныя сказы. Падкрэсліце ўстаўленыя словы.




**104.** Прачытайце. Выканайце заданне Мовы.

Пытальныя сказы вельмі важныя на пачатку размовы. Пры сустрэчы сябры ці знаёмыя пытаюцца адзін у аднаго аб справах і здароўі. Напрыклад:

— Прывітанне! Як у цябе справы?

— Дзякуй, выдатна. А ты як сябе адчуваеш?
— Дзякуй, але, на жаль, не зусім добра.

● Складзіце з суседам па парце пачатак размовы.

**105.** Прачытайце размову бабулі з унукам. Аднавіце прапушчаныя пытальныя сказы па адказах.

— Добры вечар, бабуля! ...?
— Дзякуй, сёння адчуваю сябе лепш. ...?
— Дзякуй. Учора атрымаў дзве дзявяткі. ...?
— Я прыеду да вас, як толькі папраўлюся.
— Да сустрэчы, бабуля.
— Бывай, Алесік.

● Запішыце пытальныя сказы, якія вы ўставілі ў размову.

**106.** Прачытайце.

У беларускіх народных казках галоўны герой праходзіць праз розныя выпрабаванні. Часта яго вынаходлівасць правяраецца з дапамогай пытанняў-загадак. Што хутчэйшае за ўсё на зямлі? Што на све..е ўсім і ўсяму трэба? Чаго на све..е бага..ей няма? На чым знака не пакінеш?

● Адкажыце на пытанні. Параўнайце свае адказы з адказамі казачных герояў: *імя, назва; думка; на агні; зямлі.*
● Спішыце 2-е і 3-е пытанні. Устаўце прапушчаныя літары.




**107.** Прачытайце, як трэба пытацца пра час і адказваць на такія пытанні.

— Колькі зараз часу?
— Дзве гадзіны дваццаць мінут.
— А каторай гадзіне пачнецца фільм?
— А палове першай.

● Па гэтым узоры задайце пытанне суседу па парце. А ён няхай адкажа вам.

Словы і выразы для даведкі: *У колькі гадзін (а каторай гадзіне) ты кладзешся спаць (вяртаешся са школы, снедаеш, вячэраеш, пачынаеш рабіць урокі і г. д.)? У дзевяць (а дзявятай, у восем гадзін трыццаць мінут, у дзесяць, а палове дзясятай).*




**108.** Прачытайце.

Добрае выхаванне чалавека пазнаецца па тым, як ён задае пытанні. Выхаваны чалавек ніколі не спытае: «Чаго ты хочаш?» ці «Чаго табе трэба?» Ветліва будзе сказаць: «Што б ты хацеў?» Выхаваны чалавек ніколі не запытаецца: «Дзе тут пошта?» Ён пачне са слоў: *будзьце ласкавы; скажыце, калі ласка; ці не падкажаце* і інш. Напрыклад: «Прабачце, калі ласка, як прайсці да цырка?»

● З якіх слоў можна пачаць ветлівае пытанне? Спішыце гэтыя словы.

**109.** Прачытайце.

1. Вы гуляеце на двары без гадзінніка і мабільнага тэлефона і баіцеся спазніцца на трэніроўку.

2. Вы не можаце знайсці Тэатр юнага гледача.

3. У вас не піша ручка. Можа, сусед па парце пазычыць вам сваю?

4. Вы не можаце знайсці сваю лінейку. Можа, мама яе бачыла?

- Якія пытанні вы задасце ў такіх абставінах? Якія ветлівыя словы выкарыстаеце?



**110.** Прачытайце. Устаўляйце патрэбныя пытальныя словы.

... на світанку прачынаецца з..мля? Сонца шле на яе свае праменьчыкі. Л..сы і палеткі радуюцца іх пяшчоце. А ... гэта ў б..схмарным небе разлівае салодкія і звонкія ноты? ... пазнаў ты жаваранка?



*Пяшчóта* — рус. *нéжность*.

Словы для даведкі: *хто, як, ці*.

- Якая літара прапушчана ў словах?
- Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары і словы.

## Пабуджальныя сказы







**111.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

Вельмі часта ў жыцці мы звяртаемся з просьбай: *Патрымай, калі ласка, мой рукзак. Будзь ласкавы, дапамажы мне дастаць мячык з-пад канапы.* У віншавальнай паштоўцы мы жадаем: *Няхай тваё жыццё будзе вясёлае і шчаслівае!* А мама жадае на ноч: *Няхай табе прысніцца салодкі сон.* Але здараецца, што яна можа і загадаць строга: *Зараз жа мый рукі і сядай есці!* Выказваць нашы просьбы, пажаданні, загады — гэта работа пабуджальных сказаў.

- Для чаго патрэбны ў мове пабуджальныя сказы?



*Пабуджа́ць* — значыць схіляць чалавека зрабіць што-небудзь. Адсюль назва сказаў — **пабуджальныя.**

**112.** Прачытайце. Што выражаецца ў кожным сказе: паведамленне ці заклік да дзеяння?

1. Кастусь уключыў гук у тэлевізары на поўную моц. Кастусёк, зрабі, калі ласка, гук трошкі цішэйшым. 2. Пекар пячэ хлеб, а шавец шые боты. Няхай пекар пячэ хлеб, а шавец шые боты. 3. Пасля снедання мы пойдзем у парк. Давай пойдзем у парк пасля снедання.



*Шаве́ц* — рус. *сапо́жник*.

- Спішыце сказы, у якіх выражаецца заклік да дзеяння.

**113.** Разгледзьце малюнак. Што можна выразіць з дапамогай пабуджальных сказаў?



**Пабуджальнымі** называюцца сказы, у якіх выказваецца заклік да дзеяння, пажаданне, просьба, парада ці загад: *Уважліва прачытайце правіла. Раскажы мне казку.*

Калі пабуджальны сказ вымаўляецца з моцным пачуццём, у канцы яго ставіцца клічнік: *Навекі слаўся, родны край!*

**114.** Прачытайце. Што выражае кожны сказ (заклік да дзеяння, параду, загад, просьбу, пажаданне)?

1. Няхай вашы сэрцы буду..ь добрымі і чуллівымі! 2. Дзе..і, раніца! Устань..е і адразу ў шыбу глянь..е! 3. Не губі мяне, добры ч..лавек, пусці назад у мора. 4. Гэй, малайцы! Зараз жа прыв..дзіце майго каня! 5. Не падпірай ты, ч..лавеча, стары плот. Зрабі лепш новы.

- Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары.

**115.** Прачытайце гумарэскі. Знайдзіце пабуджальныя сказы. Чаму ў канцы аднаго стаіць кропка, а ў канцы другога — клічнік?

Бацька кажа сыну:

— Зрабі ўсе ўрокі і аднясі гэты ліст на пошту.

Назаўтра бацька пытаецца:

— Ці аднёс ты ліст на пошту?

— А я, татка, не ўсе ўрокі падрыхтаваў: задачка па матэматыцы не атрымалася.

*по́шта*

***

— Калі ласка, тата, купі мне барабан!

— Але ты будзеш іграць на ім і перашкаджаць мне працаваць.

— Не, татачка! Я буду іграць на ім, калі ты будзеш спаць.



**116.** Прачытайце. Як зрабіць сваю мову больш выразнай і прыгожай?

Абавязкова чытайце ўслых штодня не менш як 15—20 мінут. Вымаўляючы словы, адчувайце да іх пашану. Яны саграваліся вуснамі прашчураў. Хай кожнае слова будзе вам як блаславенне продкаў.

*А. Клышка*



*Паша́на* — тое, што і *пава́га*.

*Пра́шчуры* — далёкія продкі, ад якіх вядзе свой пачатак народ.

● Спішыце. Падкрэсліце словы, па якіх вы адразу пазналі пабуджальныя сказы.

**117.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні.

У пабуджальных сказаў ёсць словы-«памочнікі» **няхай (хай), давайце (давай):** ***Давай*** *сябраваць.* ***Няхай*** *будзе цёпла і светла.* Словы — назвы дзеянняў таксама дапамагаюць пабуджальным сказам. Яны прымаюць такую форму: ***Паўтары*** *тры разы.* ***Не згубі*** *грошы.*




- Якія словы «дапамагаюць» пабуджальным сказам?
- Чым адрозніваюцца апавядальны і пабуджальны сказы ў подпісах да малюнкаў?

**118.** Прачытайце верш і ўрыўкі з вершаў.

1. Мы з табою зноўку марым.
Пойдзем заўтра ў планетарый.
І планеты, і каметы
нам раскрыюць там сакрэты.
Хай наблізіць нас да мары
На хвілінку планетарый!

*У. Мазго*

2. Давайце, юныя сябры,
Па дрэўцу восенню пасадзім!
*Х. Гурыновіч*

3. Зазлаваў на сонца хлопчык:
— Не свяці мне ярка ў вочы!
*Н. Галіноўская*



*Планета́рый* — будынак з экранам-купалам, дзе паказваюць зорнае неба.

● Назавіце пабуджальныя сказы. У якіх сказах ёсць спецыяльныя словы-«памочнікі»?

**119.** Дапамажыце словам-«памочнікам» *давайце* і *хай* знайсці свае месцы ў пабуджальных сказах.

1. Дожджык, пасыпся з вясёлкавай хмары.
... заблішчаць ад цябе тратуары.

2. ... прыціхнем, маўкліва пастанем,
шумець і смяяцца на міг перастанем.
*М. Дукса*

**120.** Прачытайце ліст з пажаданнямі. Словам у дужках надайце патрэбную форму.

Ёсць у мяне думка і слова да ўсіх дзетак. *(Быць)* шчаслівыя! Заўсёды *(верыць)*, што свет добры, зямля

і неба ласкавыя. Усё, што вас акружае, жыве вам на радасць. І вы *(радавацца)*.

Словы для даведкі: *будзьце, верце, радуйцеся.*

● Спішыце, раскрываючы дужкі. Словы, якія вы змянілі, падкрэсліце.




**121.** Прачытайце. Запомніце ветлівыя выразы.

Чым больш ветліва вы просіце аб паслузе, тым больш ахвотна вам яе робяць. Пабуджальным сказам-просьбам неабходны ветлівыя словы *калі ласка, будзь(це) ласкавы(я), зрабі(це) ласку, будзь(це) такі(я) добры(я)*: *Будзьце ласкавыя, дапамажыце мне зняць з паліцы чамадан.*

**122.** Прачытайце. Як ветліва папрасіць аб дапамозе ў такіх абставінах? Вусна складзіце 4 пабуджальныя сказы.

1. Вам трэба прабіць талончык у трамваі, а вы стаіце далёка ад кампосцера. 2. Надышоў час гуляць з сабакам, але мультфільм толькі пачаўся. 3. Вы зачапіліся за нешта вострае. Дзірку ў куртцы можа зашыць толькі мама. 4. Вы купляеце цацку і хочаце паглядзець зблізку, як яна працуе.



**123.** Прачытайце ўрывак з верша «Суседзі па сусвеце». Якія літары прапушчаны ў словах?

І дарослыя, і дзе..і — усе сусе..і па сусве..е.
Дарагі ты наш сусед! Беражы З..млю як след!

Мову матчыну шануй. Ведай бохану ц..ну.
Пран..сі праз пакален..і ч..лавечнасць і сумлен..е.

*У. Мазго*



Тут: *сусве́т* — рус. *вселе́нная.*

- Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

## Клічныя сказы

**Па-руску:**

**восклицательное предложение, восклицательный знак**






**Па-беларуску:**

**клічны сказ, клічнік**




**124.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

Апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы могуць быць клічнымі. Усё залежыць ад таго, як яны вымаўляюцца. Кропка ў канцы сказа сведчыць аб тым, што мама сказала гэта звычайным тонам: *Падыдзі сюды.* А гэта яна вымавіла гучна, з хваляваннем у голасе. Пра яе пачуцці сведчыць клічнік: *Падыдзі сюды!*

- Які знак прыпынку сведчыць пра тое, што сказ вымаўляецца з моцным пачуццём?

**125.** Прачытайце ўслых. Выразна вымаўляйце сказы, у канцы якіх стаіць клічнік. Якое пачуццё выражаецца ў кожным з іх: захапленне, сум, здзіўленне?

1. І заплакалі зайчыкі: «Вох, якая горкая долечка наша! Баішся кожны дзянёчак». 2. Прытаілася ў канаве жабянятак двое. На ўвесь поплаў закрычала ў здзіўленні Зоя: «Ды яны ж зусім падобны! Гэта брат з сястрою!» *(П. Прануза)*. 3. Зубр — самая магутная жывёліна беларускіх лясоў. Колькі ў ім сілы і прыгажосці! 4. Птушкай песня ўзнялася. Гэта флейта залілася: «Як падобна я на самога салаўя!» *(В. Лукша)*.



*По́плаў* — заліўны луг.
*Захапле́нне* — рус. *восхище́ние, восто́рг.*
*Сум* — рус. *грусть.*

**Клічнымі** называюцца сказы, якія вымаўляюцца з асаблівым пачуццём. Пасля апавядальных і пабуджальных клічных сказаў ставіцца клічнік: *Ой, які ветлівы хлопчык! Вітаем вас у нашым горадзе! Жывіце сумленна і дастойна!*

У канцы пытальных клічных сказаў ставіцца спачатку пытальнік, потым клічнік: *Хто дазволіў табе ўключыць камп'ютар?!*

**126.** Разгледзьце малюнак. Што могуць выражаць клічныя сказы?




**127.** Прачытайце. Спішыце клічныя сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў канцы іх.

**Дзьмухаўцы**

Сонца ім ласкі не шкадавала,
сонечнай фарбаю пафарбавала.
Ой жа, якія прыгожыя кветкі!
Ляцяць да іх пчолкі, бягуць да іх дзеткі.

*Т. Кляшторная*

***

Бацька і сын падняліся на высокую гару. Бацька кажа:

— Як прыгожа ўнізе пад намі!

— Навошта ж мы ішлі гэтак доўга ўгару?




**128.** Прачытайце. Запомніце ветлівыя выразы.

Віншую цябе з Новым годам!
Жадаю табе радасці і поспехаў!
Прыемнага вам падарожжа! Шчаслівай дарогі!

- Складзіце дыялог па ўзоры.

У з о р. — *Жадаю табе вясёлых канікул!*
— *Шчыры дзякуй! І я табе таксама!*

**129.** Прачытайце. У чым памыляўся Петрусёк?

Аднойчы Петрусёк стаў чытаць кніжку ўслых. Прачытаў першы сказ і спыніўся.

— Што ж ты змоўк?

— Тут, татка, кропка стаіць. Трэба спыніцца і памаўчаць.

Стаў чытаць далей. Але на гэты раз закрычаў на ўсю кватэру.

— Чаго ты крычыш? — напалохалася мама.

— Тут жа клічнік стаіць!

Добра, калі ўмееш чытаць. Але і чытаць трэба ўмець.

*Паводле У. Краўчанкі*

- Ці адной толькі гучнасцю адрозніваецца вымаўленне клічных сказаў?

**130.** Выразна прачытайце ўслых. Назавіце клічныя сказы.

Усе жывёліны ў казках бываюць добрыя і злыя. А пра каня ніхто ніколі не сказаў нічога благога. Казкі слав**я**ць розум, дабрыню, адданасць каня. Ён сапра**ў**ды варты самай высокай пахвалы!

Спрадвеку конь дапамага**ў** чалавеку здабываць хлеб надзённы. Ён **дз**яліў з гаспадаром н**я**лёгкую працу. Цані каня, беражы яго, шануй!

*Паводле А. Чаркасава*



*Нічо́га благо́га* — рус. *ничего́ плохого́*.
*Адда́насць* — рус. *пре́данность*.
*Ва́рты* — рус. *досто́ин*.

- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.
- Падрыхтуйцеся пісаць тэкст пад дыктоўку.



**131.** Прачытайце. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў канцы сказаў.

Як дарага кожнаму яго маленства! Гэта пара, калі ўсё ахвота зразуме..ь, пра ўсё хоч..цца запытацца.

Колькі прыемнага, цікавага знаёмства! Колькі шч..сця і ўцехі ад гэтага! Колькі непа..торных прыгод! Памя..ь старанна захавае іх, зберажэ на ..сё жыццё.

*Паводле І. Грамовіча*

- Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары.
- Падкрэсліце клічныя сказы. Якія яны па змесце: пытальныя ці пабуджальныя?




**132.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

Некаторыя пытальныя словы можна сустрэць і ў клічных сказах. Але там у іх іншая роля. Напрыклад, слова ***колькі*** ў пытальным сказе выражае пытанне: ***Колькі*** *секунд у мінуце?* А ў апавядальным клічным сказе яно дапамагае перадаць моцнае пачуццё: ***Колькі*** *цудоўных цацак у гэтым магазіне!*

- Як «працуе» слова ***колькі*** ў пытальным і апавядальным клічным сказах?

*блішча́ць*

**133.** Прачытайце сказы парамі. Параўнайце іх змест і інтанацыю.

1. ***Якія*** ў цябе планы на сёння? — ***Якія*** прыгожыя ў цябе боцікі! 2. ***Якое*** марожанае ты выбраў? — ***Якое*** смачнае марожанае мы елі! 3. ***Як*** вы сябе адчуваеце? — ***Як*** блішчаць ільдзінкі на сонцы!

- Назавіце пытальныя сказы і пытальныя словы ў іх.
- Назавіце клічныя сказы і словы, з дапамогай якіх яны ўтвораны. Якія пачуцці перадаюць гэтыя сказы: захапленне, задавальненне, сум?



*Задавальне́нне* — рус. *удово́льствие.*

**134.** Прачытайце, сачыце за інтанацыяй. Растлумачце знакі прыпынку ў канцы сказаў і правапіс прапушчаных літар.

### Раніца ў лесе

А ці бы.. ты ў лесе рана?
Чуў ты лесу галасы?
Ветрам ён расхвал..ваны,
звоніць кроплямі р..сы.

Колькі песень, шуму, свісту!
Птушкі тут гаспадары.
А якія цымбалісты!
А якія песн..ры!

*П. Прануза*

- Назавіце словы, з дапамогай якіх утвораны клічныя сказы.
- Спішыце другі слупок верша. Падкрэсліце клічныя сказы.

**135.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары.

1. Ах, які пр..гожы ў садзе матылёчак залаты! 2. Як мне хоч..цца гэта дзіва паглядзець! 3. Вох, ідзе на наша царства в..лікае войска трох каралёў! 4. Якая тут сварка пач..лася!

- Падкрэсліце словы, з дапамогай якіх утвораны клічныя сказы.

**136.** Прачытайце. Назавіце словы-«памочнікі» клічных сказаў.




1. Ах, ты сёння выглядаеш цудоўна!
2. Ой, што ты такое кажаш?!
3. Эх, зноў я не паспеў на трэніроўку!

**137.** З дапамогай спецыяльных слоў і інтанацыі вусна пераўтварыце сказы ў клічныя.

1. Я баюся гэтых жучкоў. 2. У маёй шафе аказалася многа сапсаваных цацак. 3. Ты непрыгожа паводзіш сябе. 4. У маёй мамы рукі ўмелыя.

У з о р. *1. Раніцай уставаць неахвота. — Ох, як неахвота ўставаць раніцай! 2. Ён таленавіты артыст. — Які ён таленавіты артыст!*



*Сапсава́ны* — прыведзены ў непрыгоднасць.



**138.** Прачытайце, устаўляючы ў клічныя сказы патрэбныя словы.

... добрыя словы сказаны пра каня! ... легендаў, паданняў і казак усклаўляюць хутканогага прыгажуна! «Бог стварыў каня, злавіўшы ў жменю вецер», — кажуць на Усходзе.

*Паводле А. Чаркасава*

● Запішыце першыя два сказы. Падкрэсліце ўстаўленыя словы.

## Галоўныя і даданыя члены сказа

**139.** Прачытайце. Разгледзьце малюнкі. Адкажыце на пытанні.




Я раскажу вам, як нараджаюцца сказы. Спачатку мы ўяўляем нейкую карціну ці падзею цалкам.



Потым падбіраем словы, каб усё назваць.




Кожнае слова мы ставім на сваё месца ў патрэбнай форме.

Так словы становяцца членамі сказа.

**Летам Алесь з бацькамі паедзе на мора.**

- Як словы становяцца членамі сказа?
- Якія словы-«памочнікі» спатрэбіліся, каб злучыць члены сказа?

Словы, з якіх складаецца сказ і да якіх можна паставіць пытанні, называюцца **членамі сказа**.

**140.** Прачытайце. Як вы разумееце выразы *гамоняць сосны* і *люстраная вада*?

### На беразе возера

На беразе возера раскінуўся сасновы лес. Унізе сцелецца верас. Над верасам гамоняць сосны. Яны расказваюць чароўныя казкі.

Возера маўчыць. На пясок павольна набягаюць хвалі. Чайкі лётаюць над люстранай вадой.

*Паводле Я. Брыля*

- Якое слова абазначае, пра што ці пра каго гаворыцца ў кожным сказе?
- Якое слова абазначае, што аб гэтым гаворыцца?

Узор разважання.

*На беразе возера раскінуўся сасновы лес.* Слова *лес* называе тое, пра што гаворыцца ў сказе. Аб лесе гаворыцца, што ён *раскінуўся*.

Слова, якое называе тое, пра каго ці пра што гаворыцца ў сказе, — гэта **дзейнік**. Дзейнік адказвае на пытанні *хто? што?*

Слова, якое называе тое, што гаворыцца пра дзейнік, — гэта **выказнік**. Выказнік адказвае на пытанні: *што робіць? што зробіць? што рабіў?* і інш.

Дзейнік і выказнік — **галоўныя члены сказа**.




**141.** Прачытайце. Назавіце ў кожным сказе дзейнік і выказнік.

### Сустрэча

Паляўнічы стаміўся. Сеў стары на паваленую бурай сасну. Уверсе над галавой трэснула галінка. Чалавек падняў галаву. На сасне прытоена сядзела вавёрка. Звярок трымаў у лапах зялёную шышку.

Раптам у паветры прамільгнула вогненная паласа. Гэта вавёрка скокнула на суседняе дрэва.

*Паводле З. Бяспалага*

● Спішыце першыя тры сказы. Падкрэсліце ў іх дзейнік і выказнік па ўзоры.

У з о р. *Паляўнічы* *стаміўся*.

● Назавіце словы, якія не з'яўляюцца членамі сказа.

**142.** Які сказ зашыфраваны ў гэтым малюнку? Чаму маленькая рыбка плавае асобна?




● Запішыце сказ, які ў вас атрымаўся. Падкрэсліце ў ім дзейнік і выказнік.

**143.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны ў словах?

Ён в..лікі і прыгожы, шмат лю..ей павезці можа.
Як па вуліцы ідзе, дык напружана гу..е:
— Я па вуліцы імчу. Усе с..дайце! Пракачу!
Мы заходзім па чарзе. **І тралейбус нас в..зе.**

*У. Карызна*

● Выпішыце з выдзеленага сказа дзейнік разам з выказнікам.

● Знайдзіце ў вершы пабуджальны сказ. Які ён па інтанацыі?



**144.** Прачытайце. Назавіце ў сказах дзейнікі і выказнікі.

Яшчэ на ўзлес..і снег л..жыць.
Але шпакі ўжо шч..бечуць.
Звіняць па трубах капяжы.
І кроплі падаю..ь на плеч.. .

*С. Грахоўскі*



*Капяжы́* — рус. *капе́ли*.

**звіне́ць**

- Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.
- Падкрэсліце ў кожным сказе дзейнік і выказнік.




**145.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні.

Сказы могуць быць розныя: кароткія і доўгія. Самыя кароткія сказы складаюцца толькі з галоўных членаў сказа: *Прыйшла зіма*. Да галоўных членаў могуць далучацца іншыя члены сказа — даданыя: *З краю вечных снягоў **прыйшла** да нас прыгожая і халодная **зіма**.*

- Як называюцца члены сказа, якія далучаюцца да галоўных?
- Чаму сказы могуць быць кароткімі і доўгімі?

Даданыя члены сказа далучаюцца да дзейніка і выказніка, дапаўняюць і паясняюць іх.

Даданыя члены сказа могуць адказваць на пытанні: *які? чый? каго? з кім? дзе? куды? калі?* і інш.




**146.** Разгледзьце малюнак, прачытайце словы. Са слоў складзіце сказ.




● Назавіце галоўныя і даданыя члены сказа і пытанні, на якія яны адказваюць.

● Якія даданыя члены залежаць ад дзейніка, якія — ад выказніка?

**147.** Прачытайце. Устаўце ў сказы дадзеныя члены па пытаннях. Змяніце словы для даведкі так, як патрабуе сэнс.

Валя вучыцца *(дзе?)* ў ... . Валіны бацькі ходзяць *(куды?)* на ... . Дома застаецца *(якая?)* ... бабуля. З цяжкасцю спраўляецца яна *(дзе?)* ў ... . І Валя дапамагае *(каму?)* ... .

*Паводле Г. Захарэнкі*

Словы для даведкі: *школа, работа, старэнькая, хата, бабуля* (каму? *бабул**і***).

**148.** Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні.




- Які сказ атрымліваецца з цаглінак-слоў?
- Якія цаглінкі складаюць падмурак дома? Якія далучаюцца да іх?
- Якая маленькая цаглінка спатрэбілася дзяўчынцы?
- Запішыце сказ, які атрымаўся ў дзяўчынкі. Падкрэсліце ў ім дзейнік і выказнік. Назавіце дададзеныя члены сказа.



*Падму́рак* — рус. *фунда́мент*.

**149.** Складзіце са слоў сказы і запішыце іх.

Учора, Таня, ліст, атрымала, ад, сяброўкі.
Малая, вершы, Алінка, чытае, выразна.
У, бабулі, маёй, жыве, прыгожая, кошка.

- Падкрэсліце ў сказах дзейнік і выказнік.
- Вусна пастаўце пытанні ад дзейніка і выказніка да ўсіх даданых членаў сказа. Потым — ад адных даданых членаў сказа да іншых.

У з о р. *Народныя казкі вучаць нас дабру.*
*Казкі* (якія?) *народныя. Вучаць* (каго?) *нас. Вучаць* (чаму?) *дабру.*



**150.** Аднавіце сказы, каб атрымалася віншавальная паштоўка для бабулі.




Словы для даведкі: *лепшая, віншую, цалую, добрая, вясёлая, днём, доўгіх, моцнага.*

- Запішыце віншаванне, якое ў вас атрымалася.

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

**1.** Ад чаго залежыць знак прыпынку ў канцы сказа?

**2.** Якія сказы называюцца апавядальнымі?

**3.** Якія сказы называюцца пытальнымі? З дапамогай якіх слоў яны ўтвараюцца?

**4.** Што выказваецца ў пабуджальных сказах? Прывядзіце прыклады просьбы і загаду.

**5.** Як вымаўляюцца клічныя сказы? Што яны звычайна выражаюць?

**6.** Якія члены сказа называюцца галоўнымі, якія — даданымі?

**7.** Запішыце пад дыктоўку слоўнікавыя словы: *Беларусь, бліщчаць, воблака, звінець, фламастар, павук*.

# СЛОВА

## Значэнне слова




**151.** Прачытайце.

*Ку́фар стаіць ля сцяны*. Ці зразумелі вы, што стаіць ля сцяны? Відаць, не ўсе зразумелі, бо не ведаеце, што абазначае слова *куфар*. Растлумачым яго, раскрыем яго значэнне. *Куфар* — вялікая скрынка для захоўвання тканіны, адзежы, каштоўнасцей.

Каб зразумець сэнс сказанага або напісанага, трэба ведаць значэнне слоў.



**Значэнне** — гэта тое, што слова абазначае, называючы што-небудзь.

Значэнне невядомага нам слова можна знайсці ў слоўніку, які тлумачыць, раскрывае гэта значэнне. Ён так і называецца — **тлумачальны**.

**152.** Растлумачце значэнне наступных слоў. Карыстайцеся тлумачальным слоўнікам.

У з о р. *Падручнік — кніга, па якой вывучаюць які-небудзь школьны прадмет.*

Дзённік, сшытак, ручка, партфель, акуляры, агурок.

**153.** Адкажыце, якія словы маюць наступныя значэнні.



1. Лясная птушка з доўгай моцнай дзюбай, якая здабывае ежу ў кары дрэў.

2. Вялікая пералётная птушка з доўгай прамой чырвонай дзюбай і высокімі чырвонымі нагамі.

3. Драпежная начная птушка, у якой вялікая круглая галава, вялікія вочы і кароткая загнутая дзюба.

- Ці пазналі вы сярод намаляваных птушак тых, пра якіх гаворыцца ў заданні?
- Якіх яшчэ птушак вы пазналі на гэтых малюнках?

**154.** Устаўце словы, якія падыходзяць па сэнсе. Запішыце атрыманыя сказы.

Скок ваверка на ... !
У лапках рыжанькі ... !
Нанізала на ... ,
каб запас зрабіць на ... .

*Л. Глушко*

Словы для даведкі: *зімку, дубок, грыбок, галінку.*



**155.** Калі вы правільна адгадаеце восем слоў з наступным значэннем, то з іх першых літар атрымаецца вядомае слова. Словы-адгадкі запішыце.

1. Дзікі лясны бык. (Яго можна сустрэць у Белавежскай пушчы.)
2. Выступ паміж вачамі і ротам на твары чалавека.
3. Пакрытая пяском або апілкамі круглая пляцоўка пасярэдзіне цырка.
4. Шосты месяц каляндарнага года.

5. Поезд электрычнай чыгункі.

6. Прылада для рэзання, якая складаецца з ляза і ручкі.

7. Удыхаць праз нос які-небудзь пах.

8. Вечназялёнае дрэва, на якім растуць доўгія шышкі.

Словы для даведкі: *нос, арэна, зубр, нож, электрычка, чэрвень, нюхаць, елка.*

**156.** Разгледзьце малюнкі з назвамі грыбоў.



**баравік**



**падбярозавік**



**падасінавік**

- Замест кропак устаўце ў сказы назвы грыбоў. Запішыце гэтыя сказы ў сшытак.
- Як вы думаеце, чаму грыбы маюць такія назвы?

У бары растуць ... . Пад бярозай растуць ... . Пад асінай можна знайсці ... .




**157.** Прачытайце.

*Волечка і Аленка пайшлі ў кіно.* Як вы думаеце, ці можна вызначыць значэнне слоў ***і, ў***? Нельга, таму што гэта словы-«памочнікі», якія служаць іншым словам. Яны злучаюць словы і не маюць уласнага значэння.

**158.** Прачытайце. Назавіце словы, якія маюць значэнне, і словы, якія яго не маюць.

На палянцы каля невялічкага, але прыгожага возера размясціліся турысты. Яны адпачываюць і набіраюцца сілы для далейшага падарожжа па родным краі.



● Прадоўжыце тэкст і запішыце яго. Падкрэсліце ў ім словы, якія не маюць значэння.

**159.** Змяніце ў наступных словах па адной літары, каб атрымалася новае слова. Запішыце.

У з о р. *Голад — холад.*

Голад, твор, муха, жук, суніцы, кава, ножык, вусень, шышка.

● Што абазначаюць утвораныя вамі словы?



**160.** Устаўце патрэбныя літары, каб атрымаліся словы. Запішыце гэтыя словы.

..арта *(л, с, п, ф, к)*
..ышка *(в, з, л, т, м, ш)*
..ожык *(д, п, в, ф, н)*
сто.. *(б, в, л, р, г)*
тв..р *(а, у, э, ы, о)*

- Якія з літар, што напісаны ў дужках, абазначаюць зычныя гукі, якія — галосныя?
- Што абазначаюць словы, якія ў вас атрымаліся?




**У беларускай мове ёсць блізкія па вымаўленні і напісанні словы, якія часта памылкова ўжываюцца адно замест другога.**

**161.** Высвятліце значэнне наступных слоў. (Карыстайцеся тлумачальным слоўнікам.) Складзіце з імі сказы. Два з іх запішыце.

Сыты — сытны, цікавы — цікаўны, каменны — камяністы, пісьмовы — пісьменны.

**162.** Прачытайце верш. Чаму елка стала ёлкай (ёлачкай)? Якая розніца паміж елкай і ёлкай?



Елка ў ельніку жыла,
елка ў ельніку расла.
Елку везлі нам на свята

белы зайчык і жаўна́.
Як прывезлі елку ў хату
стала ёлачкай яна.

*С. Сокалаў-Воюш*



*Жаўна́* — назва чорнага і зялёнага дзятла.

**163.** Перанясіце ў словах націск з аднаго склада на другі. Як змяняецца пры гэтым значэнне слоў? Запішыце словы і пастаўце ў іх націск.

У з о р. *Мука́ — му́ка.*

Замкі, капаць, вазы, палкі, музыка.

**164.** Знайдзіце ў вершы словы, якія пішуцца аднолькава, але маюць рознае значэнне і розны націск. Растлумачце гэтыя словы.

Гароднае пудзіла
курэй перапудзіла:
дзве чубаткі — пад ганак,
адна — у сені,
к бабцы на калені,
певень — пад страху́.
Во было стра́ху!

*Н. Галіноўская*



**165.** Збярыце непаслухмяныя літары і складзіце з іх словы — назвы намаляваных прадметаў.








● Перакладзіце словы на рускую мову. Запішыце іх парамі.

● Якія яшчэ словы можна скласці з літар усіх чатырох слоў?



**166.** Прачытайце. Выдзеленыя словы перакладзіце пісьмова на рускую мову.

Пабяжым у агарод —
там вясёлы карагод.
Дружна кінуліся ў скокі
**кроп, сланечнік** яснавокі.
— Сёння цешыцца не сорам, —
кажа **бульба памідорам.**
— Сёння свята — гэта так, —
усміхаецца **бурак.**

— Гэй, **кавун** на баразне,
ты танцуеш або не?
— Тоўсты я, нялёгка мне!
— Ай, не плач ты, карапуз, —
паўшчуваў яго **гарбуз**. —
Плакаць — справа не твая,
самы тоўсты — гэта я.
Ой, якія ў гэтым годзе
гулі, танцы ў агародзе!

*М. Дукса*



*Це́шыцца* — адчуваць радасць, задавальненне.
*Паўшчува́ць* — зрабіць вымову, заўвагу.



## Сінонімы

**167.** Прачытайце наступныя тэксты.

1. Тата з мамай ішлі па дарожцы. Побач ішла Волечка. Яна ішла асцярожна, баючыся запэцкаць новенькія басаножкі. За імі ішоў маленькі белы сабачка.

2. Тата з мамай ішлі па дарожцы. Побач крочыла Волечка. Яна ступала асцярожна, баючыся запэцкаць новенькія басаножкі. За імі тупаў маленькі белы сабачка.

- Параўнайце гэтыя тэксты. Чым яны адрозніваюцца?
- З другога тэксту выпішыце словы, якія замянілі слова *ісці*. Што ў гэтых слоў аднолькавае? Чым яны адрозніваюцца?

Словы, што пішуцца і вымаўляюцца па-рознаму, але маюць аднолькавае або вельмі блізкае значэнне, называюцца **сінонімамі**: *ісці — ступаць — крочыць*.

Сінонімы дапамагаюць пазбягаць паўтораў, робяць нашу мову больш выразнай, прыгожай.

**168.** Прачытайце. Знайдзіце словы з блізкім значэннем. Як яны называюцца?

### Дзеці і куры

— Ходзіце, курачкі,
дужа вы многа,
днямі не робіце
вы анічога.

Пойдзем, чубаткі,
з намі да рэчкі.
— Хто ж на сняданак
знясе вам яечкі?!
*Н. Галіноўская*

- Спішыце верш. Падкрэсліце сінонімы.
- Як вы думаеце, чаму аўтар верша назваў курачак чубаткамі?

**169.** Прачытайце. Якія з наступных слоў з'яўляюцца сінонімамі? Словы-сінонімы запішыце асобнымі групамі.

У з о р. *Знайсці, адшукаць.*

Зразумець, знайсці, знаходзіцца, прысутнічаць, злавацца, усвядоміць, адшукаць, змагчы, быць, гневацца, асэнсаваць, здолець, абурацца.

**170.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя словы і падбярыце да іх сінонімы.

Жураўлі, ці журавы, як яшчэ іх называюць, надзвычай **прыгожыя** птахі. Усе як адзін **рослыя,**

**дужыя**. І, бадай, найлепшыя танцоры ў птушыным свеце. Асабліва **хараша** яны танцуюць на світанні, калі ўзыходзіць сонца. Колькі ў тых скоках **весялосці!** Жураўлі то кланяюцца адзін аднаму, то распускаюць крылы, то ходзяць упрысядкі, то бегаюць навыперадкі. Птушыны цырк, дый годзе!

*У. Ягоўдзік*

Словы для даведкі: *высокія, прыгожа, сімпатычныя, радасць, моцныя.*

● Растлумачце, як вы разумееце выразы *пускацца ў скокі* і *хадзіць упрысядкі*, падбярыце да іх словы-сінонімы.



**171.** Замест кропак устаўце сінонімы. Запішыце наступныя словазлучэнні разам з сінонімамі.

Паветра свежае, ...,
Чалавек моцны, ...,
Задача лёгкая, ...,
Сабака злы, ...,
Дзяўчынка ідзе, ...,

след свежы, ... .
веды моцныя, ... .
партфель лёгкі, ... .
зіма злая, ... .
восень ідзе, ... .

Словы для даведкі: *новы, дужы, простая, сярдзіты, халодная, чыстае, грунтоўныя, няцяжкі, крочыць, наступае.*

## Антонімы




**172.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

Хлопчыкі і дзяўчынкі бываюць розныя: ёсць вясёлыя, а ёсць сумныя, ёсць такія, што часта плачуць, і такія, што, наадварот, больш смяюцца, ёсць нізкія, а ёсць высокія. Словы, якімі мы называем такіх людзей, можна запісаць парамі: *вясёлы — сумны, плакаць — смяяцца, нізкі — высокі.*

● Якое значэнне маюць словы ў парах: блізкае ці процілеглае?

**173.** Прачытайце. Да наступных слоў падбярыце словы з процілеглым значэннем. Запішыце іх.

У з о р. *Чысціня — бруд, часта — рэдка, купіць — прадаць.*

Чысціня, вечар, мелка, мяккі, змокнуць, згубіць, цёмна, шырокі, маўчаць.

*чысціня́*

Словы з процілеглым значэннем называюцца **антонімамі:** *гарачы — халодны, ціхі — гучны.*

**174.** Па якіх прыметах можна проціпаставіць наступныя словы? Запішыце назвы гэтых прымет.

У з о р. *Снег белы — сажа чорная.*

Снег — сажа, дзень — ноч, нітка — канат, шакалад — рэдзька, дарога — сцежка, камень — пластылін, вожык — слон.

Словы для даведкі: *светлы — цёмны, белы — чорны, тонкі — тоўсты, салодкі — горкі, цвёрды — мяккі, шырокі — вузкі, маленькі — вялікі.*

**175.** Прачытайце. Як вы разумееце сэнс прыказак? Знайдзіце ў іх антонімы.

Дзе шчырая праца — там густа, а дзе лянота — там пуста.

Зямля — талерка: што пакладзеш, тое і возьмеш.

Яму раніцою росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць.

Па адзенні сустракаюць, а па розуме выпраўляюць.

Чаго не згубіў, таго не знойдзеш.

- Выпішыце антонімы па ўзоры.

У з о р. *Густа — пуста.*

**176.** Прачытайце. Падбярыце антонімы да выдзеленых слоў.

1. У верасні ночы ўжо **халодныя,** але дні яшчэ … . 2. На **поўначы** раслінны і жывёльны свет не такі, як на … . 3. **Вечарам** сонца **заходзіць,** а … … . 4. **Вясёлым** людзям жывецца лягчэй, чым … .

- Запішыце сказы, падкрэсліце ў іх антонімы.



**177.** Да слоў з першага слупка падбярыце сінонімы з другога і антонімы з трэцяга. Запішыце гэтыя словы па ўзоры.

У з о р. *Смелы — храбры — баязлівы.*

| | | |
|---|---|---|
| вядомы | кепскі | цвёрды |
| дужы | невялікі | павольны |
| дрэнны | моцны | рослы |
| мяккі | пушысты | добры |
| малы | шпаркі | невядомы |
| хуткі | знакаміты | слабы |

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

**1.** Што такое значэнне слова?

**2.** Якія словы называюцца сінонімамі? Прывядзіце прыклады.

**3.** Якія словы называюцца антонімамі? Прывядзіце прыклады.

# Склад слова

## Роднасныя словы. Корань слова




**178.** Прачытайце.

Параўнаем словы *дуб, дубок, дубовы*. Яны маюць агульную галоўную частку *дуб*. У ёй заключаецца значэнне слова. Галоўная частка можа існаваць і без астатніх частак слова. Нездарма яе называюць **коранем.**




● Растлумачце значэнне дадзеных слоў. Паглядзіце на іх уважліва. Што вы заўважылі? Як вы лічыце, ці можна аб'яднаць гэтыя словы ў адну сям'ю? Чаму?

**179.** У словах *столік* і *прынёс* знайдзіце абавязковую, галоўную, частку і частку, якая самастойна існаваць не можа.

**180.** Знайдзіце і абазначце дужкай зверху ⌒ агульную частку наступных слоў.

Рыба, рыбка, рыбак, рыбны, парыбачыць, рыбацкі, рыбалка, бязрыбны, рыбалавецкі.

● Растлумачце значэнне кожнага слова.

Блізкія па сэнсе словы, якія маюць агульную частку, з'яўляюцца **роднаснымі.**

Агульная частка роднасных слоў называецца **коранем.**

Корань выражае асноўнае значэнне слова.

Корань абазначаецца знакам ⌒.

**181.** Прачытайце. Выпішыце роднасныя словы. Абазначце ў іх корань.

Слава маміным рукам!
Хай на ўсёй планеце
кветкамі для мілых мам
расцвітаюць дзеці.

*М. Пазнякоў*

**182.** Прачытайце. Знайдзіце роднасныя словы, запішыце іх, абазначце корань.

Но**чч**у прайшоў **ц**ёплы дожджык-грыбасей. Яська ўзяў кошык і накіраваўся **ў** лес. Знайшоў а**дз**ін гр**ы**б і радуецца: «Вось і будзе грыбная паліўка!»

А мама кажа: «Хіба ж адным грыбочкам я ўсіх накармлю? Ідзі і пашукай яшчэ. Там, дзе рос твой грыб, няйначай, расце і другі грыбок»...

*П. Паўлаў*

- Закончыце гэта апавяданне. Прыдумайце да яго загаловак.
- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

Роднасныя словы, якія маюць адзін і той жа корань, называюцца **аднакаранёвымі:** *белы, белаваты, беленькі.*

**183.** Прачытайце. Якіх слоў не хапае ў тэксце?

На поўначы Беларусі ёсць прыгожае возера Нарач. На возеры многа ... . Тут убачым і чайку, і дзікую качку, і лебедзя. У цёплую пару года яны выводзяць маленькіх ... . Цэлы дзень над Нараччу чуваць ... гоман.

- Спішыце. Замест кропак устаўце прапушчаныя аднакаранёвыя словы. Абазначце ў іх корань.

Словы для даведкі: *птушыны, птушкі, птушаняты.*



**184.** Падбярыце да слоў з левага слупка аднакаранёвыя словы з правага слупка і запішыце іх па ўзоры. Абазначце корань.

У з о р. *Чытаць — чытанка, ..., ... .*

| | |
|---|---|
| чытаць | чытач, вучань, працоўны |
| працаваць | прачытаць, вучаніца, праца |
| вучыць | вучоны, чытанка, працавіты |

● Складзіце і запішыце 2—3 сказы з аднакаранёвымі словамі.

**185.** Прачытайце. Падбярыце да выдзеленых слоў аднакаранёвыя. Запішыце словы парамі па ўзоры.

### Дружба

Ля **пянёчка** ў бары
**дом** з сасновае кары
**збудавалі** камары.
Каб адным не **сумаваць**
і каб разам **працаваць,**
час не бавіць у **гульбе,**
**запрасілі** да сябе
працавітых **сябрукоў:**
**пчолак,** конікаў, жукоў,
мурашоў і матылькоў.

*С. Бестава*




У з о р. *Пянёчак — пень.*

**186.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.




Памятайце: **аднакаранёвымі** з'яўляюцца словы, у якіх корань мае адно і тое ж значэнне. Напрыклад, словы *носік* і *паднос* не аднакаранёвыя.

- Ці з'яўляюцца аднакаранёвымі словы *марскі* і *мара*?



*Ма́ра* — рус. *мечта́*.

**187.** Прачытайце. У кожным радку знайдзіце лішняе слова. Растлумачце, чаму яно лішняе. Аднакаранёвыя словы запішыце.

Прасіць, просьба, проса, папрасіць.
Сонца, сонейка, сонны, сонечны.
Стол, столік, столь.
Вада, вадзіць, вадзяны, вадзіца.

**188.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

Стрэл — стр..ляць, стр..лок.
Мост — м..сток, м..ставы.
Шэпт — ш..птаць, ш..птуха.

Мора — м..рскі, м..ракі.
Рэчка — р..чулка, р..чнікі.

- Абазначце ў словах корань, пастаўце націск.
- Растлумачце, калі ў корані замест ***о, э*** пішацца ***а***.

**189.** Прачытайце. Выпішыце аднакаранёвыя словы парамі. Абазначце ў іх корань.



1. Тата Ясіка — ляснік, і да лесу ён прывык. 2. Неба на ўсходзе пасвятлела. На светлым нябесным блакіце пачалі гаснуць зоркі. 3. У вячэрнім змроку згушчаліся цені. Вечар усё афарбаваў у шэры колер. 4. Летні луг нагадваў квяцісты дыван. На ім чырванелі кветкі **канюшыны. 5. Рамонак** вылучаўся сваёй жоўтай галоўкай у белых пялёстках. Пялёсткі ярка бялелі на сонцы.

- Растлумачце напісанне галосных ***е***, ***ё***, ***я*** ў каранях выпісаных слоў.
- Назавіце кветкі, якія вы бачыце на малюнку. Беларускія назвы гэтых кветак перакладзіце на рускую мову.



**190.** Прачытайце. Спішыце. Абазначце ў словах корань. Устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх напісанне.

Тру..ка — трубіць, зага..ка — загадаць, бяро..ка — бяроза, сце..ка — сцяжынка, ска.. — сказы, заво.. — заводы, бера.. — берагі, ло..ка — лодачка.

## Канчатак

**191.** Прачытайце.




*Родная краіна ёсць у кожнага. Кепска чалавеку, калі ён без роднай краіны. Шануй сваю краіну!*

Звярніце ўвагу на зменную частку слова *краіна*: *краін**а***, *краін**ы***, *краін**у***. Гэта **канчатак.**

> Зменная частка слова называецца **канчаткам:** *школ* [*а*], *школ* [*ы*], *школ* [*у*], *школ* [*ай*], *аб школ* [*е*].
> Канчатак абазначаецца знакам [ ].

**192.** Прачытайце. Выпішыце ўсе формы слова *паляна* і абазначце яго зменную частку — канчатак.

Ёсць паляна сіняя ў бары —
у глухім зялёным гушчары,
чыстая, бліскучая, як люстра.
На паляну ручаінкі льюцца.

Над палянай з ранку да змяркання
дружны хор птушыны не змаўкае.
Толькі ёсць адна расчараванне —
не растуць суніцы на паляне.
Сіняя паляна ў бары —
возера цудоўнае, сябры.

*І. Муравейка*

**193.** Дапішыце спалучэнні слоў, устаўляючы слова *паляна* ў патрэбнай форме.

У з о р. *Ёсць* (што?) *паляна*.

Льюцца *(на што?)* на ... .
Не змаўкае *(над чым?)* над ... .
Не растуць *(на чым?)* на ... .

● Якая частка слова *паляна* дапамагае яму злучацца з іншымі словамі?

Канчатак служыць для сувязі слоў у сказе:

*Шануй сва[ю] родн[ую] краін[у]*.

**194.** Слова *дрэва* змяніце так, каб яно правільна звязалася са словам *прыгожы.* Запішыце гэтыя словы і выдзеліце ў іх канчаткі.

У з о р. *Прыгож[ае] дрэв[а]*.

Прыгожае *(дрэва)*, прыгожага *(дрэва)*, прыгожаму *(дрэва)*, з прыгожым *(дрэва)*, аб прыгожым *(дрэва)*.

● Растлумачце, чаму гук [в] у форме *дрэва* вымаўляецца цвёрда, а ў форме *дрэве* — мякка.

**195.** Прачытайце. Назавіце канчаткі ў словах *парта* і *цырк* пры іх змене.

| | |
|---|---|
| новая парта | новы цырк |
| новай парты | новага цырка |
| новую парту | новаму цырку |




Звярніце ўвагу! У нашым жыцці шмат з'яў, якія мы не бачым, але гэта не значыць, што іх няма. Сонейка днём мы можам бачыць, а можам не бачыць, калі яго закрылі хмары. Але гэта не значыць, што яго няма. Так і канчатак пры змене слова можам бачыць (*цырк* [*а*], *цырк* [*у*]), а можам і не бачыць (*цырк*[ ]). Такі нябачны канчатак называецца **нулявым.**



**196.** Спішыце. Выдзеліце ў словах канчатак.

У з о р. *Нов*[*ы*] *пенал*[ ].

Новы пенал, зялёны аловак, белы капялюш, смачная цукерка, высокая гара, глыбокае возера, выдатная адзнака.

*капялю́ш*



*Капялю́ш* — рус. *шля́па*.

**197.** Прачытайце. З наступных слоў складзіце апавяданне. Калі неабходна, змяніце канчаткі ў словах.

Хлопчыкі, знайшлі, грак.
У, яго, быць, перабіты, левы, крыло.

Хлопчыкі, прынеслі, хворы, птушка, дамоў.
Праз, месяц, грак, мог, лятаць.
Добрыя, «дактары», адпусціць, птушка, на, воля.

- Прыдумайце загаловак да апавядання.
- Запішыце апавяданне разам з загалоўкам.

**198.** Прачытайце. Дайце тэксту загаловак. Пастаўце пытанні да выдзеленых слоў. Выпішыце іх і абазначце канчатак.



Пасябраваў верабейка з **кветкай.** Ён вырашыў ахоўваць **кветку** ад вусеняў і чарвякоў.

Пачаў верабейка скакаць з галінкі на галінку, з іншымі **кветкамі** знаёміцца. Наскакаўся, нагуляўся, аж бачыць, што нешта калматае над яго **кветкай** кружыцца. Раззлаваўся верабейка і паскакаў да **кветкі,** каб ратаваць яе.

Але не паспеў: калматы незнаёмец пакружыўся і паляцеў далей. А **кветка** зусім не хвалюецца.

— Гэта чмель. Ён сябра ўсіх **кветак,** — ласкава патлумачыла кветачка.

*Паводле Л. Улашчанкі*

**199.** Прачытайце прыказкі. Словы ў дужках змяніце так, як патрабуе сэнс. Абазначце ў іх корань і канчатак. Запішыце прыказкі.

Той герой, хто за *(Радзіма)* гарой.

Чалавек без *(Радзіма)*, як салавей без *(песня)*.

Шчыра працуй у *(грамада)*, дык не будзеш у *(бяда)*.

● Як вы змянілі словы ў дужках? Які гук вымаўляецца замест [д] у гэтых словах?

**200.** Прачытайце. Пастаўце пытанні да першых слоў кожнага радка. Што абазначаюць словы кожнага радка — прадмет, дзеянне ці прымету? Спішыце, абазначце ў словах корань і канчатак.

Дрэва, дрэву, дрэвам, на дрэве.

Піша, пішаш, пішам, пішуць.

Зялёны, зялёнае, зялёная, зялёныя, зялёнага, зялёнаму, зялёным.

**201.** Прачытайце. Кожнае слова пастаўце на сваё месца. Змяніце, дзе неабходна, канчаткі. Запішыце правільна першы абзац тэксту.

Як толькі гара ўзышла з-за сонца, ложак устаў са свайго шырокага дзядзькі. Ён абуў ногі на боты, надзеў галаву на шапку і адчыніў хату дзвярэй.

— Глядзі ты, як дождж намок ад зямлі, — здзіўлена сказаў вус, пакручваючы дзядзьку. І ён шпаркім дваром пайшоў па кроку, каб выгнаць хлеў з каровы. Выгнаў і кажа:

— Ты, луг, ідзі пасвіцца ў зялёнай карове, а я схаджу ў дровы, каб прынесці лесу.

*Б. Чопіч*

**202.** Прачытайце скорагаворку. Запішыце яе. У выдзеленых словах абазначце корань і канчатак.

**Асаку каса** касіла, **асака касу** прасіла:
— Не **касі** мяне, каса, згіне ўся мая краса!

*Х. Ляшкевіч*



**203.** Прачытайце. Назавіце канчаткі ў словах.

Дзіцячая гульня, **геаграфічная карта,** новая парта, **цікавае апавяданне,** дубовыя сталы, сінія касцюмы, маладое дрэўца.

● Складзіце і запішыце сказы з выдзеленымі словазлучэннямі.

## Прыстаўка

**204.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.




Параўнаем словы *вёз*, *завёз*, *адвёз*, *перавёз*, *прывёз*. Усе яны маюць агульную частку (корань *-вёз*) і частку, якой гэтыя словы адрозніваюцца: ***за-***, ***ад-***, ***пера-***, ***пры-***. Гэта **прыстаўка.**

● Дзе знаходзіцца прыстаўка: перад коранем ці пасля яго?




Частка слова, якая знаходзіцца перад коранем, называецца **прыстаўкай.** Прыстаўка служыць для ўтварэння слоў з новым значэннем: *чытаць* — *прачытаць*, *перачытаць*, *дачытаць*.

Прыстаўка абазначаецца знакам ⌐.

**205.** Прачытайце.

Даўно ўжо **абляцелі** лісты з клёнаў, каштанаў і таполяў. І толькі на дубе яшчэ засталіся сухія пажоўклыя лісты. Злосны вецер стараецца іх сарваць. Вось **зляцеў** адзін лісток. Вецер падхапіў яго, узняў угару. Ён **узляцеў** высока і **паляцеў** з ветрам удалячынь. Астатнія сухія лісточкі моцна трымаюцца за галлё, змагаюцца з ветрам.

*П. Паўлаў*

● Выпішыце выдзеленыя аднакаранёвыя словы. Абазначце ў іх прыстаўку. Якое значэнне мае кожнае з гэтых слоў?

**206.** Ад слоў *весці, каціць, крыць, трымаць* утварыце новыя словы пры дапамозе прыставак ***за-, па-, пры-, у-***. Запішыце гэтыя словы. Абазначце прыстаўкі. Як прыстаўкі змянілі значэнні слоў?

У з о р. *Весці — завесці.*

**207.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя словы і абазначце прыстаўкі.

### Апавяданне паляўнічага

**Выбраўся** я неяк на паляванне. Хадзіў-хадзіў па лесе. Стаміўся і прысеў на пянёк. **Распаліў** цяпельца. І раптам да цяпельца скок заяц! Сеў каля мяне і глядзіць мне ў вочы.



Я азірнуўся. На тоўстай галіне **прытаілася** рысь. Я **закрычаў**, схапіў стрэльбу. Рысь знікла ў гушчары. А касы паскакаў у кусты.

*Паводле В. Хомчанкі*

- Знайдзіце ў апавяданні сінонім да слова *заяц.*
- Назавіце націскныя склады ў словах *пянёк, цяпельца.*
- Прыдумайце сваё апавяданне на тэму «Выпадак у лесе». Пастарайцеся ўжыць як мага больш слоў з прыстаўкамі.



*Цяпе́льца* — так у некаторых мясцінах Беларусі называюць невялікі касцёр.



**208.** Прачытайце. Выпішыце ў асобныя групы словы з аднолькавымі прыстаўкамі.

Панесці, злізаць, **убегчы**, забрахаць, змесці, змыць, падліць, **уехаць**, **увезці**, зазвінець, загрукаць, паехаць, пабегчы.

- Вусна перакладзіце на рускую мову выдзеленыя словы.

**209.** Прачытайце. Спішыце. Замест кропак дапішыце неабходныя прыстаўкі.

Янка захацеў паглядзець тэлевізар. Падышоў да яго і ..ключыў. Перадача была нецікавая, і ён вы-

рашыў ..ключыць тэлевізар на другі канал. З другога ..ключыў на трэці. Але і там перадачы яму не спадабаліся, і Янка ..ключыў тэлевізар.

• Ва ўмове практыкавання ёсць словы *спішыце, дапішыце.* Прачытаўшы іх, вы зразумелі, што трэба рабіць. А што трэба рабіць, калі ў гэтых словах будуць прыстаўкі ***пера-, пад-, вы-***? Прыдумайце сказы з такімі словамі.

**210.** Прачытайце. Выпішыце словы, якія абазначаюць дзеянне. Абазначце ў іх прыстаўкі.

Заспявалі, загукалі
лес і пералескі.
Засінелі, зажаўцелі
лотаць і пралескі.

*А. Бялевіч*



*Ло́таць* — расліна, якая расце на балоце.

• Параўнайце словы *спявалі* — *заспявалі*, *гукалі* — *загукалі*, *сінелі* — *засінелі*, *жаўцелі* — *зажаўцелі*. Якія з гэтых слоў абазначаюць пачатак дзеяння?

**211.** Прачытайце. Дапішыце патрэбныя прыстаўкі.

1. У суп насыпалі многа солі, таму яго ..салілі, а ў бульбу — мала, таму яе ..салілі. 2. Да фінішу Міхась ..бег першы. 3. Лямпачка перагарэла, трэба было яе ..круціць і ..круціць новую. 4. Сусед дапамог тату ..несці з хаты шафу. 5. Да нас ..ехала бабуля.

**212.** Запішыце наступныя словы. Падбярыце да іх антонімы. Абазначце прыстаўкі.

Адчыніць — ...,
прыклеіць — ...,
адкрыць — ...,
унесці — ...,
расплюшчыць — ...,
уехаць — ... .

- Што можна *адчыніць, адкрыць*?



**213.** Запішыце словы. Выдзеліце прыстаўку ***па-*** ў тых словах, дзе яна ёсць.

Парад, параіцца, парадак, паравоз, парабіць, пара, папячы, папугай, папужаць, папіць, папера.

**214.** Замяніце словазлучэнні словамі. Запішыце іх. Абазначце ў словах прыстаўкі і падкрэсліце ў словазлучэннях словы, якія маюць аднолькавае значэнне.

У з о р. *Закончыць пілаваць — дапілаваць.*

Закончыць есці — ...,
закончыць піць — ...,
закончыць чытаць — ...,
закончыць глядзець — ... .

Пачаць спяваць — заспяваць,
пачаць бегаць — ...,
пачаць звінець — ...,
пачаць гаварыць — ... .

**215.** Спішыце. Абазначце прыстаўкі. Падкрэсліце апошнюю літару ў прыстаўках. Які гук яна абазначае ў выдзеленых словах: глухі ці звонкі?

Адрамантаваць, адпароць, **надрэзаць, надпілаваць,** падкапаць, падгрэбці, пераднавагодні, перадсвяточны, прадбачыць, прадказаць, **абвесці, абтрэсці.**

**216.** Прачытайце.




Што трэба ведаць, каб правільна напісаць апошнюю літару ў выдзеленых вамі прыстаўках? Толькі тое, што ў прыстаўках ***ад-, над-, пад-, перад-, прад-*** заўсёды пішацца ***д***, незалежна ад вымаўлення. У прыстаўцы ***аб-*** заўсёды пішацца ***б***: *надпісаць, абтрэсці.*



**217.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Выдзеліце прыстаўкі.

А..гарадзіць, а..пырскаць, а..бяліць, а..святкаваць, на..грызці, па..тачыць, па..расці, пера..вясенні, па..трымаць, пра..чуваць, па..сякаць.

**218.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя словы, абазначце ў іх прыстаўкі, падкрэсліце першую літару кораня.

На высокім старым дубе буслы вырашылі **збудаваць** сабе гняздо. З ускрайку лесу пананосілі **спіленага** і **зрубленага** вецця. Птушкі па-майстэрску **спляталі** галінкі і праз некаторы час **зрабілі** ўтульную буслянку.

● Перад якім зычным кораня (глухім ці звонкім) у выпісаных словах ужываецца прыстаўка ***з***-, перад якім — ***с***-?



*Бусля́нка* — гняздо буслоў.

Калі корань слова пачынаецца звонкім зычным, то перад ім пішацца прыстаўка ***з-***: *збегаць, звярнуць, зрабіць*; калі корань пачынаецца глухім зычным, то гэта прыстаўка перадаецца літарай ***с-***: *спісаць, сшыць, сходзіць, сцерці.*




**219.** Ад наступных слоў утварыце новыя словы пры дапамозе прыстаўкі ***з-*** або ***с-***.

Даць, клеіць, варыць, хадзіць, біць, пісаць, чысціць, капціць, бегаць, паліць, насіць, лічыць, шыць, жыць.

● Абазначце прыстаўкі. Падкрэсліце першую літару кораня.



**220.** Спішыце. Абазначце прыстаўкі. Вусна перакладзіце словы на рускую мову.

З'ехаць, пад'есці, ад'езд, з'езд, з'есці, пад'ехаць.

● Для чаго ўжываецца апостраф? Паміж якімі літарамі ён пішацца?

**221.** Прачытайце.

Пад’ехаў да гары Тарас.
На горку ўз’ехаў. З’ехаў раз
і заявіў: «Круты пад’ём!
Паедзем у аб’езд — кругом!»
*П. Паўлаў*

- Назавіце прыстаўкі. Растлумачце ўжыванне апострафа.

**222.** Прачытайце. Зрабіце вывад, чым у напісанні адрозніваюцца прыстаўкі ад прыназоўнікаў.

1. Над лесам ляцелі буслы. Надпіліць дошку. 2. Пад страхой павук сплёў сваю павуціну. Падрамантаваць машыну. 3. Ад пошты ад’ехала машына. 4. Аб нашым класе гаварылі на сходзе. Абвязаць дрэвы на зіму саломай.

Прыстаўкі са словамі пішуцца заўсёды разам, прыназоўнікі — асобна: ***на****маляваць;* ***на*** *малюнку*.

**223.** Прыдумайце і запішыце сказы, у якіх былі б словы з прыназоўнікамі і прыстаўкамі ***па-***, ***з-***, ***за-***, ***у-***.

У з о р. *Па дарозе ехала машына. — Птушкі паляцелі на поўдзень.*



**224.** Прачытайце. Хто «дапамог» гэтым парам слоў стаць антонімамі: прыстаўка ці корань?

Вынесці — унесці, уляцець — вылецець, загаварыць — замаўчаць, прыехаць — паехаць, прынесці — аднесці, пасвятлець — пацямнець.

- Спішыце дадзеныя пары слоў. Абазначце ў іх прыстаўкі.
- Чаму ў слове *уляцець* пішацца ***я***, а ў слове *вылецець* — ***е***?

## Суфікс

**225.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.




Звернем увагу на словы *мора* — *марак.*

Яны адрозніваюцца часткамі, якія знаходзяцца пасля кораня. Адна з іх ***(-а)*** — зменная частка. Яна не ўтварае новага слова. Гэта канчатак. Другая ***(-ак)*** утварае новае слова і захоўваецца ў ім пастаянна, як бы мы яго ні змянялі. Гэта **суфікс.** Параўнаем: *мор* *а*, *на мор* *ы*, *за мор* *ам* і *марак*, *на марак* *у*, *у марак* *а*.

- Чым адрозніваецца суфікс ад канчатка?

**226.** Спішыце.

Бяроза — бярозка — бярозавы.
Сад — садок — садовы.
Мароз — марозік — марозны.

● Назавіце ў словах корань і канчатак. Абазначце значком ^ суфікс — частку слова, якая стаіць пасля кораня перад канчаткам.

> Частка слова, якая знаходзіцца пасля кораня перад канчаткам, называецца **суфіксам.**
>
> Суфікс служыць для ўтварэння слоў з новым значэннем: *мор[а] — марск[і], дуб — дубов[ы]*.
>
> Суфікс абазначаецца знакам ^.

**227.** Разгледзьце малюнкі. Што вы на іх бачыце? Якім словам названы большы прадмет, якім — меншы? Якое новае значэнне надаюць слову суфіксы ***-ок, -ік, -к***?



**228.** Прачытайце. Выпішыце выдзеленыя словы. Абазначце ў іх суфікс. Якое значэнне ён мае ў гэтых словах?

У акварыуме **сомік**
носам тыкаецца ў **шыбку**
так пацешна, нібы **гномік.**
Палюбуйцеся на **рыбку!**

*Д. Бічэль-Загнетава*

**229.** Прачытайце.




Такім словам, як *роцік, носік, домік, маленькі, хуценькі,* суфіксы надаюць памяншальна-ласкальнае значэнне. Падобныя суфіксы дапамагаюць перадаваць розныя пачуцці: радасць, захапленне, добры настрой.

● Прывядзіце прыклады слоў з памяншальна-ласкальным значэннем.



**230.** Спішыце. Устаўце суфікс ***-ік-*** або ***-ык-***.

Сонечныя зайч..і,
дзе схавалі пальч..і,
дзе схавалі роц..і,
вус..і, жывоц..і?
Круглыя, як мяч..і,

сонечныя зайч..і,
як відаць, не чуюць,
бегаюць, танцуюць.
*А. Дзержынскі*

● Чаму ў адных словах вы ўстаўлялі суфікс ***-ік-***, а ў другіх — ***-ык-***?

**231.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі. Побач запішыце словы без гэтых суфіксаў.

У з о р. *Вясёленькі — вясёлы.*

### Ластаўкі

Прыляцела ластаўка з далёкага выраю. Вясёленькая песня яе так і пасыпалася па ўсім двары мілым шчэбетам. Уляцела яна ў гумно і ўбачыла, што леташні яе домік за зіму абсыпаўся; толькі камячок гразі трымаўся каля страхі. Туды прыляцела і другая ластаўка, і вылепілі яны харошанькае, кругленькае гняздзечка. Туды насілі яны пёрцы і высцілалі імі дно.

*Паводле Я. Коласа*



*Гумнó* — будынак для складвання і абмалоту збожжа.

**232.** Ад прапанаваных слоў утварыце і запішыце новыя словы пры дапамозе суфікса ***-ок.***

Колас, голас, сноп, мост, голуб, мёд, лес.

● Як змяняюцца галосныя ў каранях слоў? Чаму яны змяняюцца?

**233.** Ад наступных слоў з дапамогай суфікса ***-ан-*** або ***-ян-*** утварыце словы — назвы дзіцянят жывёл. Запішыце. Вусна перакладзіце гэтыя назвы на рускую мову.

У з о р. *Кот — кацяня (кацянё), мыш — мышаня (мышанё).*

Лось, ліса, воўк, заяц, мядзведзь, бабёр, зубр, бусел, трус.

**234.** Ад назваў прадметаў утварыце і запішыце назвы прымет. У словах — назвах прымет абазначце суфікс.

У з о р. *Жыта — жытні, шафёр — шафёрскі, сасна — сасновы.*

| | | |
|---|---|---|
| Жыта — ..., | шафёр — ..., | сасна — ..., |
| лета — ..., | капітан — ..., | шоўк — ..., |
| зіма — ..., | дырэктар — ..., | бор — ..., |
| хмара — ..., | мора — ..., | рабіна — ... . |

● Як змяніліся галосныя ў каранях слоў, утвораных ад слоў *мора, бор, шоўк*? Чаму змяніліся галосныя?



**235.** Прачытайце. Знайдзіце назвы музычных інструментаў.

Грае Яна на баяне,
на гітары — Ядзя,
на цымбалах — Федзя,
Пеця — на кларнеце.

*Х. Жычка*






● Утварыце і запішыце словы — назвы музыкантаў у адпаведнасці з тым, хто на чым іграе. Ужывайце суфікс ***-іст*** або ***-ыст***.

Узор. *Кларнет — кларнетыст.*

**236.** Спішыце. Абазначце ў словах корань і суфікс.

Туман — туманны, вагон — вагонны, машына — машынны, корань — карэнны, закон — законны, чыгун — чыгунны, Айчына — айчынны, абарона — абаронны.

**237.** Прачытайце. Адгадайце словы па апісанні. Запішыце іх.

1. Корань, як у слова *грыбны*, суфікс, як у слова *дворнік*.

2. Корань, як у слова *прыяцельскі*, прыстаўка, як у слова *неспакой*.

3. Корань, як у слова *гарадскі*, прыстаўка, суфікс і канчатак, як у слова *зарэчны*.

4. Корань, як у слова *смакаваць*, прыстаўка, як у слова *прысвіст*, канчатак, як у слова *ручкі*.

5. Корань, як у слова *воды*, прыстаўка, як у слова *падбярозавік*, суфікс, як у слова *зімні*, канчатак, як у слова *нотны*.

**238.** Утварыце імёны па бацьку з дапамогай суфіксаў ***-авіч (-овіч)*** і ***-аўн- (-оўн-)*** ад наступных уласных імён.

У з о р. *Міхаіл — Міхайлавіч, Міхайлаўна.*

Міхаіл, Сямён, Іван, Рыгор, Ігнат, Пётр, Эдуард.

**239.** З дапамогай суфіксаў утварыце словы — назвы прадметаў і назвы прымет.

У з о р. *Грыб + -нік, -н-: грыбнік, грыбны.*

лес + -нік, -н-
мора + -ак, -ск-
рыба + -ак, -н-
лыжы + -нік, -н-
сад + -оўнік, -ов-
барабан + -шчык, -н-
машына + -іст, -н-
танк + -іст, -ав-



**240.** Прачытайце. Спішыце. У выдзеленых словах абазначце корань, суфікс, канчатак.



Вышывае шоўкам **Зоська**
**брацiку** сваймү **Антоську**
на сарочцы **каласкі,**
а між імі васількі.
І **праменьчык** зіхатлівы,
як **струменьчык** мігатлівы,
**поіць сонцам каласкі.**

І смяюцца васількі.

*Я. Пушча*

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Што такое корань слова? Якія словы называюцца аднакаранёвымі?
2. Што такое канчатак? Для чаго ён служыць?
3. Што такое суфікс? Для чаго ён служыць?
4. Што такое прыстаўка? Для чаго яна служыць?
5. Якія прыстаўкі пішуцца нязменна, незалежна ад вымаўлення?
6. Ад чаго залежыць напісанне ***з, с*** у прыстаўках?

# ЗМЕСТ

## ПАЎТАРЭННЕ



## ТЭКСТ



## СКАЗ

## СЛОВА

Беларуская мова : падручнік для 3-га кл. устаноў агул. ся-
Б43 рэд. адукацыі з рус. мовай навучання. У 2 ч. Ч. 1 / Т. М. Валынец [і інш.]. — 2-е выд., выпраўл. і дап. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2012. — 136 с. : іл.
ISBN 978-985-559-070-6.

**УДК 821.161.3(075.2=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

Вучэбнае выданне

**Валынец** Таццяна Мікалаеўна
**Ратнікава** Ірына Энгелеўна
**Роўда** Іван Сямёнавіч
**Шуба** Павел Паўлавіч

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Б. Сопат*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Мастакі *С. Л. Пятрова, А. А. Чарапеніна, М. У. Мароз*
Камп'ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейкі*
Карэктары *К. В. Шобік, Н. М. Кумагер*

Падпісана ў друк 07.06.2012. Фармат 70×90 1/16.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,95.
Ул.-выд. арк. 3,63 + 0,47 форз. Тыраж 106 500 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа»
ЛП №02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |